



# Наша Слова





-праграма


**ДЗВЮХ РОДНЫХ МАЦІ НЕ БЫВАЕ** *Стар.2.*

**ВЫГНАННІК** *Стар.4.*



Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 44 (308)** 31 кастрычніка — 6 лістапада 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў


# ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **2 лістапада наш народ адзначае Дзяды, ушаноўвае памяць продкаў.**

❍ ***У Менску прайшлі дні культуры Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь.***

❍ **28 кастрычніка былыя палітычныя вязні адзначылі Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій.** У Доме літаратара адбыўся жалобны сход, пасля якога ўдзельнікі сходу наведалі Курапаты.

❍ ***У Менску ў Доме дружбы надзвычайны і паўнамоцны пасол Італіі Джан Лука Берцінета ад імя свайго прэзідэнта ўручыў ордэн Італьянскай Рэспублікі "За заслугі" народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву.*** *Дзякуючы за ўзнагароду, Васіль Уладзіміравіч сказаў, што гэты ордэн ён расцэньвае як "акт прызнання беларускай нацыі, асаблівa яе дэмакратычнай часткі, дзяржавы і культуры".*

❍ **У самым пачатку лістапада Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту спаўняецца 75 гадоў.** Адзначыць свой юбілей БДУ вырашыў з размахам — урачыстасці будуць праходзіць на лепшых канцэртных пляцоўках сталіцы на працягу трох дзён. Што ж — гуляць дык гуляць!

❍ ***У "Звяздзе" змешчана гутарка з рэктарам Беларускага універсітэта культуры Ядвігай Грыгаровіч**, якая, у прыватнасці, сказала: "Моладзь цягнецца да духоўнасці, да магчымасці мець інтэлігентную прафесію, скажам так, далучыцца да інтэлігенцыі. Інтэлігенцыя — гэта найбольш чулая, разумная, адукаваная, выхаваная, культурная частка грамадства. На інтэлігенцыю павінна абапірацца дзяржава, калі яна хоча дасягнуць вяршынь эканамічнага і культурнага развіцця." Слушна! А пакуль што ў нашай дзяржаве, на жаль, не вельмі прыслухоўваюцца да думкі інтэлігенцыі.*

❍ **У музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя** календароў-плакатаў "Старажытная Беларусь" і "Уладары старажытнай Беларусі", а таксама кнігі Георгія Штыхава "Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі" (падручніка па гісторыі для 6 класа). Можна адзначыць, што ўпершыню ў падручніку пададзены ўсе прозвішчы князёў беларускай дзяржавы, а таксама іх каляровыя партрэты.

❍ ***Каля вёскі Азярніца адбылася ўрачыстая зварка першага стыку беларускага ўчастка газапровада "Ямал — Заходняя Еўропа".** Як паведамілі ў рэспубліканскім друку, зварка дзвюх труб дыяметрам 1,4 метра каштуе 700 долараў. А што зробіш, калі зваршчыкі выкарыстоўваюць апараты японскай вытворчасці, а электроды — швейцарскія.*

❍ **Французскія дэмографы падлічылі,** што ўсяго на Зямлі з часоў Адама і Евы жыло прыблізна 80 мільярдаў чалавек. І сярод іх, відаць, мільёнаў 70-80 беларусаў.

❍ ***У нашай краіне з'явілася новае выданне — "Дзіцячая газета".** Радуе, што ў ёй ёсць і беларускамоўныя матэрыялы. Хочацца спадзявацца, што "Дзіцячая газета" не будзе цурацца беларушчыны.*

❍ **Старажытны Полацк, які па праву лічыцца калыскай зямлі беларускай, павінен атрымаць статус нацыянальнага запаведніка.** Да такой думкі прыйшлі ўдзельнікі Міжнароднай канферэнцыі музеяўцаў з Беларусі, Масквы, Санкт-Пецярбурга і Пскова.

## Выбары: на адно месца — 4 кандыдаты

За "страсцямі" аб даце прэзідэнцкага рэферэндуму аб Канстытуцыі неяк амаль незаўважаным аказаўся той факт, што завяршылася рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага і мясцовых саветаў. На адно месца ў Вярхоўны Савет — заканадаўчы орган Рэспублікі — прыпадае да чатырох прэтэндэнтаў. Будзе з каго выбраць лепшага. Праўда, пакуль не зусім зразумела — а як выбаршчыкам з кандыдатамі грунтоўна пазнаёміцца?

**У.А.**

## Рэферэндум можа згубіць сэнс?

Канстытуцыйны суд разглядае пытанне адносна законнасці правядзення рэферэндуму па зменах і дапаўненнях у Канстытуцыю, прапанаваных Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам.

Згодна заканадаўству на рэферэндум можна выносіць толькі папраўкі да Канстытуцыі, якая дзейнічае, а не праекты новай. Вельмі верагодна, што суд прызнае прэзідэнцкія і парламенцкія змяненні менавіта праектамі новых Канстытуцый і забароніць праводзіць па іх усенароднае галасаванне, бо і адзін, і другі яе новыя варыянты прадугледжваюць кардынальную змену дзяржаўнага ладу краіны.

У такім выпадку рэферэндум для Прэзідэнта адразу губляе ўсялякі сэнс. У парламента ж застаецца моцны аргумент у выглядзе пытання пра ўсенародныя выбары кіраўнікоў адміністрацыі. У выпадку станоўчага на яго адказу бальшыні выбаршчыкаў давядзецца перарабляць усю прэзідэнцкую "вертыкаль". Не выпадкова ў падкантрольных Прэзідэнту СМІ ўжо распачалася кампанія па дыскрэдытацыі ідэі мясцовага самакіравання: маўляў,краіна будзе разбіта на "ўдзельныя княствы". А можа, наадварот, людзі проста змогуць лепш кантраляваць дзейнні мясцовай улады, і яна ў сваю чаргу будзе старацца працаваць на іх карысць?

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Набалелае*

## Мяне "убралі"

Шаноўная рэдакцыя! Звярнуцца да вас мяне падштурхнула тэлеперадача "Роднае слова". Тое, што я пачуў з выступлення рэдактара газеты Эрнэста Ялугіна і вядучага тэлепраграмы Уладзіміра Содаля, не проста здзівіла, а настолькі ўразіла, што ўсё кіпіць унутры. Выпісваюць газету толькі дзве тысячы чалавек! Няўжо настаўнікам беларускай мовы і літаратуры не патрэбнае "Наша слова"? Няўжо ўстановам культуры, музеям, вышэйшым і сярэднім навучальным установам наша газета не цікавая? Пэўна, не! Але чаму склалася такое становішча? Таму, што наша інтэлігенцыя — гэта балота ў нашым нацыянальным Адраджэнні. Сярод нашай беларускай інтэлігенцыі ёсць бальшыня людзей, якая шчыра ненавідзіць усё беларускае, усё ад дзедаў і прадзедаў.

Вось прыклад з жыцця вясковай інтэлігенцыі. Вёска Пасадзец — радзіма Зміцрака Бядулі і Альфонса Петрашкевіча. Вясною 1996 года, калі ў мясцовай школе адбываўся бацькоўскі сход, дырэктар школы Тацццяна Паўлаўна Садкавец, між іншым, паведаміла, што на працягу нейкага перыяду будзе ісці рэформа школы і што педагагічныя калектывы павінны выказацца наконт рэформы. Я як бацька школьніцы 3-га класа прапанаваў у сваёй запісцы, якую перадаў дырэктаршы, звярнуцца да Міністэрства адукацыі РБ, да міністра Стражава, што бацькоўскі сход сумесна з педкалектывам патрабуе надання статуса дзяржаўнай мовы толькі беларускай. Пры паступленні і навучанні карыстацца толькі нацыянальнай мовай, а ўсе астатнія, замежныя мовы, вывучаць па жаданні дзяцей і бацькоў.

Божа міласцівы, што тут пачалося! Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Іванова Вольга Аляксееўна выкрыкнула: "Это же вздор!" Дырэктарша і настаўніцы сталі сцяной на абарону расійскай мовы. Гэтым гісторыя не закончылася. Настаўнікі абзванілі ўсе ўладныя структуры, якія маглі на мяне нейкім чынам уздзейнічаць. Пайшлі звычайныя пераследы з боку ўлад, ігнараванне маіх зваротаў, а старшыня гаспадаркі імя Энгельса Бенза В.М. заявіў: "Если мне доверят оружие, я тебя первого застрелю. Полицаев и бэнээфовцев нужно убирать!"

І мяне "убралі", вядома не ў фізічным сэнсе, але ў маральна-псіхалагічным, стварылі такія ўмовы жыцця і працы, што прыйшлося па іх прапанове падаць заяву па асабістым жаданні. Я быў загадчыкам мясцовага клуба, маючы адукацыю гісторыка, а сення я ніхто і нішто, апынуўся нібы выкінуты на вуліцу. Ну чым не вясковы бомж?

Вось вам вясковая меладрама ў барацьбе за наша слова, за нашу нацыю, яе гісторыю, культуру і г.д.

Але я веру ў сябе і маіх сяброў. Дай, Божа, усім нам веры і настойлівасці ў дасягненні нашай мэты.

З павагай

**Мікола СІДАРЭВІЧ.**

в. Пасадзец Лагойскага раёна Менскай вобласці.

## Постаці нашага духу

*Вечарыны*

Асаблівa цяпер, у такі цяжкі і непрадказальны для выжывання беларускай нацыі час, сталічны Дом літаратара для многіх стаў тым куточкам, дзе яшчэ можна сустракацца з роднымі па духу людзьмі, пачуць выступленні выбітных дзеячаў беларускай культуры і адпачыць на вечарыне ў гонар якой-небудзь гістарычнай ці юбілейнай даты, якія завяршаюцца канцэртамі народных гуртоў і ансамбляў. Сюды закрыта дарога хамскай антыбеларушчыне, тут яшчэ можна ўбачыць нацыянальную сімволіку над галовамі ўдзельнікаў свята.

"Наша слова" ўжо пісала пра міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Культура і адукацыя беларускага замежжа", якая была арганізавана Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" і прайшла напачатку кастрычніка ў Доме літаратара. Да згаданай інфармацыі дадам, што працягам гэтай выдатнай падзеі стала такая незвыклая вечарына, прысвечаная на гэты раз юбілярам беларускага замежжа Янку Запрудніку, Аляксандру Надсану і Сакрату Яновічу. Вёў рэй старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны Адам Мальдзіс, перамешваючы сур'ёзную гаворку з досціпамі і гумарыстычнымі навеламі з жыцця беларускіх славутасцяў. Юбіляраў віншавалі народныя пісьменнікі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, якая ўзначальвае Дзіцячы фонд "Сакавік", літаратуразнаўца Уладзімір Гніламёдаў і святар Ян Матусевіч. Яны ўсе сказалі добрае слова пра юбіляраў, ахарактарызавалі іх шматгранную навуковую і грамадскую дзейнасць. Адказвалі на добрыя пажаданні Янка Запруднік і Сакрат Яновіч.





Першаму — палітолагу, гісторыку і паэту з Амерыкі споўнілася 70 гадоў, другому — аўтару двух дзесяткаў кніжак прозы з Беласточчыны — 60 гадоў. Айцец Надсан з Англіі, які стварыў у Лондане буйны асяродак беларускай культуры і на працягу апошніх гадоў аказвае гуманітарную дапамогу дзецям Чарнобыля і вывозіць іх на аздараўленне ў Англію, адсутнічаў. Яго асобу на ўрачыстасці прадстаўляла Марыя Міцкевіч, звязаная з айцом Надсанам дабрачыннай дзейнасцю на карысць дзяцей Чарнобыля. Яе выступленне дапоўніў святар Ян Матусевіч. У гумарыстычным тоне павіншавалі юбіляраў прадстаўнікі БНФ — прафесар Юрый Хадыка і перакладчык Лявон Баршчэўскі.

**Ірына КРЭНЬ.**

# Апантаны навукай

30 кастрычніка споўнілася 60 гадоў выдатнаму беларускаму лінгвісту, доктару філалагічных навук, загадчыку аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, сябру Рэспубліканскай Рады ТБМ, старшыні Рады таварыства "Беларусь — Балгарыя", віцэ-прэзідэнту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прафесару Генадзю Цыхуну.



Юбіляр нарадзіўся ў вёсцы Кунцаўшчына Гарадзенскага раёна ў сям'і настаўніка і краязнаўцы Апанаса Цыхуна. Пасля заканчэння школы вучыўся на славянскім аддзяленні філалагічнага факультэта Ленінградскага універсітэта, працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, вучыўся ў аспірантуры пры Ленінградскім універсітэце, дзе пад кіраўніцтвам прафесара Ю.Маслава напісаў дысертацыю "Сінтаксіс займеннікавых клітык у балгарскай і македонскай літаратурных мовах". З паўднёваславянскімі мовамі была звязана і тэма доктарскай дысертацыі Генадзя Цыхуна — "Тыпалагічныя праблемы балканаславянскага моўнага арэала". Гэтая грунтоўная праца атрымала высокую ацэнку спецыялістаў як на радзіме, так і за мяжой.

Хоць у навуковай дзейнасці Генадзя Цыхуна выразна акрэслены пэўныя прыярытэты, тым не менш усебаковая навуковая падрыхтоўка дазволіла яму не заставацца "аўтарам адной тэмы" і дала магчымасць прысвяціць сябе даследаванню розных навуковых праблем. У кола навуковых інтарэсаў даследчыка ўваходзяць арэальнае і тыпалагічнае вывучэнне славянскіх моў, балканскія інавацыі ў паўднёваславянскіх мовах, месца беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў, бібліяграфія беларускай славістыкі і інш. Генадзь Цыхун з'яўляецца сааўтарам васьмітомнага "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы" (выданне працягваецца) і пяцітомнага "Тураўскага слоўніка". З яго ініцыятывы ў 60-70-я гады ў Менску былі праведзены шэраг навуковых сімпозіумаў, прысвечаных вывучэнню лексічных сувязяў беларускай мовы з суседнімі славянскімі і балтыйскімі мовамі. Генадзь Цыхун пастаянна ўдзельнічае ў разнастайных канферэнцыях па арэальнай лінгвістыцы (юбіляр з'яўляецца адным з заснавальнікаў арэалогіі як самастойнай мовазнаўчай галіны), у міжнародных з'ездах славістаў, беларуска-балгарскіх канферэнцыях, навуковых мерапрыемствах, прысвечаных праблемам этымалогіі славянскай лексікі.

З другой паловы 80-х гадоў Генадзя Цыхуна ўсё больш цікавяць праблемы грамадскага быцця беларускай мовы і яе літаратурнага афармлення. Пад час гарбачоўскай "перабудовы" ён быў адным з нямногіх лінгвістаў, дактароў навук, якія адразу ж занялі выразна адраджэнскую пазіцыю ў справе будучага лёсу беларускай мовы. Гэтая пазіцыя вынікала не толькі з патрыятычных памкненняў навукоўца-беларуса, але і з глыбокага ведання заканамернасцяў моўнага развіцця. Адным з першых Генадзь Цыхун абгрунтавана аспрэчыў перспектыўнасць беларуска-расійскага двухмоўя ў тым выглядзе, у якім яно існавала ў канцы 80-х гадоў, і адназначна выказаўся за статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Першым сярод беларускіх мовазнаўцаў праблему захавання беларускай мовы юбіляр стаў разглядаць у рамках моўнай экалогіі, дысцыпліны, што вывучае ўзаемадзеянне паміж якой-небудзь мовай і яе асяроддзем.

У другой палове 80-х гадоў Генадзь Цыхун удзельнічаў у дыскусіях, што разгарнуліся вакол "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы". Абапіраючыся на сваё веданне лексікаграфічнай практыкі ў галіне іншых славянскіх моў, а таксама спасылаючыся на водгукі ў замежным друку з нагоды выхаду ў свет першых тамоў, Генадзь Цыхун паказаў, што укладальнікі тлумачальнага слоўніка занадта моцна "прывязаліся" да расійскай лексікаграфічнай традыцыі, якая пярэчыць асаблівасцям развіцця беларускай мовы, што, урэшце, і выклікала заўвагі на адрас мовазнаўцаў.

Ад пачатку заснавання ТБМ імя Ф.Скарыны Генадзь Цыхун бярэ актыўны ўдзел у працы Таварыства і, найперш, па тых напрамках дзейнасці, якія патрабуюць высокай лінгвістычнай кваліфікацыі. Так, у самы разгар арфаграфічных спрэчак ён узначальваў правапісную камісію Таварыства, якая на шматлікіх пасяджэннях выпрацавала свае рэкамендацыі, скіраваныя на ўдасканаленне беларускай арфаграфіі. Правапісная камісія сярод усіх камісій Таварыства працавала ці не найбольш прафесійна, і найбольшая заслуга тут належыць, безумоўна, яе старшыні Генадзю Цыхуну. Апошнім часам навуковец адначасова з'яўляецца старшынём Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі і навукі, што спрыяе ўвядзенню матываваных методык і ў практыку тэрміналагічнай працы.

Сябры і калегі ведаюць Генадзя Цыхуна як сціплага чалавека, умелага арганізатара і дабразычлівага дарадцу. Яны жадаюць юбіляру добрага здароўя, асабістага шчасця і ўвасаблення ўсіх творчых задум.

**Сяргей ЗАПРУДСКІ.**

*Лісты ў рэдакцыю*

## Для шчасця трэба так нямнога

Вы ніколі не задумваліся, колькі трэба зараз свядомаму беларусу для шчасця? Зусім жа нямнога. Пачуе ён аб'яву на беларускай мове ў гарадскім транспарце ці электрычцы і адразу пачне нечаму ўсміхацца, бо ўскалыхнуцца надзеі на лепшае, на будучыню. Ён можа нават не паленавацца і падысці да вадзіцеля, каб падзякаваць яму за гэты "глыток" роднай мовы. А калі ўжо пачуе ён сваю мову ў натоўпе, то ледзь ці не расцалаваць гатовы таго чалавека, бо сам не заўсёды карыстаецца роднай мовай у гутарцы, у побыце. І не з-за таго, што не любіць або не ведае, а з-за легендарнай сваёй памяркоўнасці: "Абы ціха было". А то скажаш па-беларуску, дык людзі яшчэ пачнуць глядзець, як на блазна. А то і словы непрыемныя казаць, накшталт "калхознік", "дзярэўня", прыдурак, нацыяналіст недастрэлены, фашыст недабіты, бэнээфавец няшчасны. Таму і не надта гаваркі сапраўдны беларус. І, часцей за ўсё, сумны. Бо шмат што прыйшлося яму згубіць святога ў яго ж краіне. Цяжка жыць сапраўднаму беларусу... І аб адным толькі малітвы яго: каб не адабраў жорсткі лёс апошняй прывілеі і крыніцы гаючай надзеі — суверэннай, незалежнай Беларусі. І часта ў хвіліны адчаю (а такіх усё болей) паўтарае ён радкі Рыгора Барадуліна:

*Божа, пашлі Беларусі*
*Ласку з тваімі вачамі,*
*Сэрцы сунеш у скрусе,*
*Злітуйся над крывічамі.*

Бо няма беларусу больш на каго спадзявацца. На сябе ж не прывык...

**Андрэй КУЗНЕЧЫК.**

*Рэха*

Словы, вынесеныя ў загаловак, не аднойчы гучалі з вуснаў тых, хто 19 кастрычніка прыйшоў пацікавацца з моста праз Свіслач каля Траецкага прадмесця Менска (бліжэй не падпускала міліцыя) на абшары каля Палаца спорту, ачэпленыя спецвойскамі. Некаторыя паказвалі на фігуркі людзей на дахах дамоў, мяркуючы, што гэта снайперы. Спецвойскам былі таксама напакаваныя аўтобусы і "джыпы". Траецкае прадмесце "асядлалі" спецназаўцы ў бронежылетах, касках і са шчытамі. Дарэчы, па звестках маскоўскіх журналістаў, у бронежылетах, зробленых па спецзаказе ў Маскве, былі Прэзідэнт А.Лукашэнка і яго бліжняе атачэнне. Пацвердзіць ці абвергнуць гэта не можам, бо назіралі за дзеяй у Палацы спорту па тэлевізары. На Палац спорту, дарэчы, "працавалі" ажно тры тэлеканалы, уключаючы 2 расійскія (выпадак беспрэцэдэнтны), а таксама Беларускае радыё. У той жа час Беларускае радыё "Свабода" старанна глушылася. Слухаць, такім чынам, можна было толькі "вертыкальны бок". Кажуць, амаль ці не адзіны з "нацыяналістаў", хто змог у гэты дзень каля Палаца спорту наблізіцца да А.Р.Лукашэнкі, быў старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па замежных справах Пётр Краўчанка. Але Аляксандр Рыгоравіч на пытанне Пятра Кузьміча, чаму таго не прапускаюць у Палац спорту на "сход", моўчкі рынуўся зігзагамі прэч за спіны целаахоўнікаў і знік. Групе тэлежурналістаў расійскага РТР, якая паспрабавала зафіксаваць гэты незвычайны момант, давялося потым, кажуць, рамантаваць апаратуру — ахова "працавала" бязлітасна. Некаторыя лічаць, што такую рэакцыю Прэзідэнта А.Лукашэнкі на зварот да яго вядомага палітыка і старшыні Камісіі ВС выклікала тое, што Пётра Краўчанка па звычцы гаварыў па-беларуску.

Дарэчы, пра беларускую мову. Напярэдадні, 18 кастрычніка, на Нацыянальным кангрэсе ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры, які праходзіў у менскім Палацы прафсаюзаў, яна гучала вольна і натуральна — і з трыбуны, і ў зале, і ў фае сярод гасцей. Побач з расійскай, польскай, нямецкай, англійскай і іншымі. Ды і сам кангрэс пачаў працу ўступным словам у абарону беларускай годнасці і дэмакратыі народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля. У Палацы ж спорту панавала практычна расійская мова. І было нават дзіўным у расійскамоўным вялікім дакладзе Прэзідэнта пачуць словы, што беларускую мову дзяржава будзе падтрымліваць і наогул яна цяпер прапагандуецца куды лепей, чымся раней. Наколькі гэта так, можна будзе пераканацца даволі хутка хаця б на лёсе нешматлікіх беларускамоўных культуралагічных газет — як змогуць яны выдавацца ў 1997 годзе.

На кангрэсе па-беларуску гаварылі з трыбуны занепакоеныя лёсам дэмакратыі і незалежнага нацыянальнага існавання і віцэ-спікер Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, і дэпутат ВС Мечыслаў Грыб, і прафесар фізікі, намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, і народны паэт Ніл Гілевіч, і выдатны кінарэжысёр Віктар Дашук, і многія іншыя. Ды і экс-міністр унутраных спраў рэспублікі Юрый Захаранка вёў пасяджэнне на беларускай мове. У той жа час, калі прадстаўнік шахцёраў Салігорска Аляксандр Каралёў, адзін з тых нямногіх з калоны марша пратэсту гарнякоў супраць дыктатуры і галечы, хто здолеў прарвацца ў Менск праз кардоны спецаховы, казаў пра жыццё працоўных салігорцаў і іх барацьбу за дэмакратыю па-расійску, дэлегаты кангрэса таксама ўважліва выслухалі яго, зразумелі і горача падтрымалі.

Выступоўцы ў Палацы спорту гаварылі па-расійску, як і першыя асобы беларускай дзяржаўнай "вертыкалі", і толькі акцэнт выдаваў іхні радавод.

На кангрэсе прысутныя адчувалі сябе нязмушана, твары людзей былі натхнёныя, дэлегаты і госці душой адгукаліся на кожнае слова выступоўцаў з трыбуны, бо яно было шчырае. Хто быў з нейкай пазіцыяй не згодны, мог яе аспрэчыць, падышоўшы да мікрафонаў у зале. У часе галасавання рэзалюцый скрупулёзна членамі прэзідыума падлічваліся галасы "за", "супраць", "устрымаўся". Быў момант, калі вядучы пасяджэнне народны паэт Генадзь Бураўкін папрасіў паўтарыць падлік галасоў "супраць" і ўстрымаўшыхся, бо яму падалося, што не былі ўлічаны ўсе галасы тых, хто знаходзіўся на "галёрцы". А чаго не было, дык гэта прымусу падымацца нязгодных і "паказваць сябе" зале. А ў Палацы спорту гэта было, і рабілася настойліва, на "неслуха" ў дадатак нацэльваліся "ствалы" камер дзяржаўнага тэлебачання і, безумоўна, спецслужбаў. Хаця па вялікаму рахунку, каб паказаць імкненне ўладаў сапраўды ўлічваць думку заплоханага многімі дзесяцігоддзямі рэпрэсій народа і яго прадстаўнікоў, дзяржаўнай "вертыкалі" трэба было б "пачуць" голас сваіх дэлегатаў праз кабіны для тайнага галасавання. І ці не пра трывогу за грамадзянскі мір нават ніжэйшых "вертыкальшчыкаў" і падначаленых ім непасрэдна кіраўнікоў прадпрыемстваў і калгасаў, якіх была пераважная бальшыня сярод дэлегатаў (вядома, і яны частка народа, але ж не бальшая), азначалі тыя надзвычай дружныя апладысменты, калі А.Р.Лукашэнка абвясціў, што згодны на правядзенне рэферэндуму 24 лістапада, як належыць па закону. Па словах аднаго з "верных" журналістаў, якія былі дапушчаныя ў Палац спорту, ягоны суразмоўца-дэлегат шчыра прызнаўся, што "камень с души свалился", калі ён такое пачуў ад "бацькі". Ды, відаць, не толькі ў гэтага чалавека. Нават па тэлевізары было заўважна, які ўздых палёгкі тады пракаціўся па прасторы спартыўнага палаца.

А твары гэтых людзей! Пачынаючы са старшыні Кабінета Міністраў Міхаіла Чыгіра і старшыні Нацбанка Тамары Віннікавай, якія сядзелі бы на хаўтурах. А ў зале колькі было апушчаных долу галоў! А колькі было проста-такі нейкіх няшчасных выразаў на тварах! Куды падзелася тая пагардлівасць, якая была ў некаторых з іх, калі яны ехалі на добрых аўтобусах за дзяржаўны кошт у гэты палац, а на павароце на праспект Машэрава некалькі тысяч дэманстрантаў з бел-чырвона-белымі сцягамі, што прыйшлі сюды пасля 30-тысячнага мітынгу на плошчы Парыжскай Камуны, суправаджалі "вертыкальных" абраннікаў свістам ганьбы. Практычна не выгукнута было ані слова абразы, не кінута (дзякаваць Богу) аніводнага праваахайнага каменя, толькі гэты свіст, як з трыбун стадыёна, якім звычайна гледачы суправаджаюць каманду, якая запляміла сябе нядобрасумленнай гульнёй.

Але тут не гульня. Тут — сёння і блізкая будучыня беларусаў. І ўжо грымяць сталлю калоны бронетранспарцёраў спецвойскаў на праспектах сталіцы Беларусі, і ўжо брэшуць многія дзесяткі нямецкіх аўчарак, натрэніраваных ірваць ікламі целы дэманстрантаў. А яшчэ — з'явіліся, як гэта вынікае з Дакладной запіскі начальніка баявой падрыхтоўкі корпуса аховы (апублікавана ў газеце "Свабода", агучана таксама на Нацыянальным кангрэсе ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры 18.10.96) спецыялісты-інструктары атрада "Віцязь" з Растова-на-Доне, з братняй Расіі,— каб перадаць свой вопыт расправы над чачэнцамі. Ужо распакаваны хімічныя боезапасы. Нават звышмасавага паражэння... А ля саменькага чамуцкі Катэдральнага сабора рускай праваслаўнай царквы, на ўзвышшы, разносіцца па ваколіцы водар натхнення армейская паходная кухня з гарачай баландай...

**Ул. АСІНАВЕЦ.**

# "Усебеларускі сход начальства ў зоне адчужэння"?

# Дзвюх родных маці не бывае

Цалкам падзяляю трывогу Язэпа Палубеткі, выказаную ім у артыкуле "Спроба асэнсавання двухмоўных выбыкаў" у № 40 "Нашага слова". Ні для каго не сакрэт, што "запеўку" такім выбыкам даў мінулагодні рэферэндум, па выніках якога беларуская мова, не паспеўшы як след за нейкія тры-чатыры гады "адлігі" набрацца моцы, каб заняць свой пасад у грамадстве, была зноў загнаная ў куток. Пагарджаюць ёю сёння не толькі чыноўнікі ўсіх рангаў, а і журналісты прапрэзідэнцкіх газет. Ды і раённых таксама. Калі раней афіцыйныя матэрыялы з райгарвыканкамаў, што дасылаліся туды, перакладаліся ў рэдакцыях з расійскай на беларускую мову, то цяпер ідуць, як кажуць, з ходу без перакладу. А ў некаторых раёнках ужо працэнтаў восемдзесят матэрыялаў пішуцца на расійскай мове — і нікога гэта не трывожыць.

Або ўзяць тую ж "Народную газету", на якую спасылаецца аўтар публікацыі ў "Нашым слове". У свой час, калі рэдактарам быў І.Сярэдзіч, яна падавала нейкі прыклад "збалансаванага" двухмоўя. Што ад яго зараз засталося? Разгорнеш іншы нумар газеты, а там на шасці (у суботу — на дванаццаці) старонках налічыш ад сілы тры-чатыры беларускамоўны інфармацыі афіцыйнага зместу. Усе "капітальныя" артыкулы не толькі аўтарскія, а і сваіх штатных супрацоўнікаў падаюцца, як правіла, на расійскай мове — за рэдкім выключэннем. Ажно злосць іншы раз бярэ ад сузірання такога "двухмоўя": няўжо журналісты гэтай масавай газеты не разумеюць, што сваімі грэблівымі адносінамі да роднага слова яны льюць ваду на млын зацятых беларусафобаў, прарасійскіх шавіністаў? І ўжо масавы чытач падсвядома пачынае лічыць, што на "дзеравенскай" мове газета з ім размаўляць не жадае, а таму спяшаецца падпісацца на расійскамоўную. Мяркую па выніках падпісной кампаніі на чацвёрты квартал па Суцкім раёне, які калісьці, у 20-я гады, у пісьменніцкіх колах рэспублікі лічыўся свайго роду калыскай беларускай літаратурнай мовы. А цяпер самая масавая тут — расійскамоўная прапрэзідэнцкая "Советская Белоруссия" — на яе падпісалася 4987 чалавек, за ёю ідзе "Народная газета" — 3346. Унушальныя тыражы расійскамоўных "Белорусской нивы", "Рэспублікі", штотыднёвіка "Аргументы и факты". З беларускамоўных газет толькі "Звязда" яшчэ карыстаецца папулярнасцю ў вясковага чытача — на яе падпісалася 3077 чалавек. Затое тутэйшая інтэлігенцыя спрэс дэманструе сваю непавагу да роднага слова. Напрыклад, на раён у чацвёртым квартале будзе ісці толькі 29 экземпляраў штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", ды і тыя ў большасці ў бібліятэкі. Такая ж карціна з падпіскай на газеты "Наша ніва", "Культура", "Наша слова".

Таму цалкам падзяляю думку доктара гістарычных навук Леаніда Лыча, што дзвюх родных моў, як і дзвюх родных маці не бывае. Ва ўмовах, калі расійская мова запаланіла ўсе сферы грамадскага жыцця, а беларуская выцеснена не толькі з гарадскіх, а і большасці вясковых сем'яў, выжыць замардаванай за дзвесце гадоў ганення беларусафобамі розных масцяў беларускай мове будзе вельмі цяжка.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

# Сібір — другая радзіма беларусаў




Беларусы ў Іркуцку — адным з буйнейшых гарадоў Сібіры — складаюць чацвёртую па колькасці этнічную групу пасля расійцаў, татараў і буратаў. Нядаўна яны стварылі там уласную арганізацыю, дваццаць пятую ў ліку іншых нацыянальных культурных асяродкаў — украінскага, польскага, інгерманландскіх фінаў ды іншых.

Ініцыятарам заснавання іркуцкага Таварыства беларускай культуры стаў Алег Рудакоў. Ураджэнец Полаччыны, ён, як і многія беларускія юнакі, па сканчэнні вайсковага вучылішча служыў далёка ад родных мясцінаў. Звольніўшыся з арміі, застаўся жыць у Сібіры — краі, які на працягу стагоддзяў рабіўся новай радзімай для дзесяткаў тысячаў беларусаў. Цяпер Алег працуе ў прыватнай фірме і вучыцца на трэцім курсе факультэта гісторыі Іркуцкага універсітэта. Яго навуковае зацікаўленне — паходжанне і лёсы беларусаў Усходняй Сібіры.

Пад час гутаркі з Алегам Рудаковым карэспандэнт "Нашага слова" пачуў наступнае:

— Беларусы масава асядалі ва Усходняй Сібіры з XVI стагоддзя. Прычынаю іх перасялення туды сталі войны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім. Палоненых у іх беларусаў адсылалі на ўскраіны Расіі, у той жа Іркуцк, дзе іх тады называлі літоўскімі людзьмі. Нашыя продкі абжывалі гэты край. Масамі вывозіліся на ўсход і ўдзельнікі паўстанняў 1794, 1861 ды 1863 гадоў. Пазней, ужо на пачатку XX стагоддзя, беларусаў таксама перасялялі ва Усходнюю Сібір цэлымі вёскамі. Гэты працэс працягваўся і пасля прыходу да ўлады бальшавікоў. Тыя ўсяляк заахвочвалі да пераезду сялян з Усходняй Беларусі. Ці мала людзей трапіла туды і за апошнія дзесяцігоддзі, атрымаўшы размеркаванне пасля інстытутаў ці адправіўшыся на вялікія будоўлі кшталту Байкала-Амурскай магістралі.

Спачатку я не ведаў, колькі беларусаў жыве ў горадзе і рэгіёне. Як аказалася, нашых землякоў там толькі паводле перапісу 1989 года звыш 25 000. Але гэта лічба не дакладная. Мне даводзілася ездзіць па Балаханскім раёне, дзе ёсць вялікае сяло Тарнопаль. Яно складаецца з трох меншых вёсак (адна з іх называецца Гомельск), у якіх жывуць пераважна беларусы — перасяленцы з Гомельшчыны і Віцебшчыны. Вёска ўзнікла ў 30-я гады, калі людзей вярбавалі пераязджаць на новыя землі, дазваляючы жыць там не ў калгасе, а аднаасобна і мець колькі хочаш зямлі. Шмат перасяленцаў вярнулася назад, не вытрымаўшы цяжкога клімату і гнюсу. Але многія засталіся. Самае цікавае тое, што гэтыя людзі захавалі сваю мову. "Праходзь, калі ласка, сядай, зараз я бульбачкі насмажу",— казала мне старая жанчына — цётка Дуся, у якой я спыніўся. Яна гаварыла так, як яе бацькі. Але, у адрозненне ад іх, называла сябе рускай, бо рускімі запісвалі ўсіх, хто нарадзіўся ў Сібіры. Камусьці з мясцовых беларусаў, выдаючы дакументы, нават памянялі прозвішчы на расійскі лад.

Дык вось, яшчэ сёння многа жыхароў гэтай вёскі гаворыць па-беларуску. Там памятаюць і спяваюць беларускія песні. Нават маладое пакаленне, вывучыўшы мову расійскую, не змагло пазбыцца беларускага вымаўлення. Бульбу там называюць бульбай, хату — хатай. Падобны стан рэчаў і ў суседнім селішчы, якое называецца Анучынск і ўзнікла ў 1909 годзе. Тады, у час рэформаў Сталыпіна, у Сібір перасялілі цэлую беларускую вёску.

Таму сёння ў адным з буйнейшых гарадоў Усходняй Сібіры — Іркуцку і ў яго наваколлі жывуць дзесяткі тысячаў этнічных беларусаў. І гэта не толькі вяскоўцы, але і ўрадавыя чыноўнікі, армейскія афіцэры, навукоўцы. Сярод іх — намеснік губернатара, загадчык аддзела абласной адміністрацыі, дэкан Акадэміі народнай гаспадаркі...

**— Як было створанае беларускае Таварыства ў Іркуцку?**

— Пасля 4-га з'езда Таварыства беларускай мовы, на якім я прысутнічаў у якасці госця, у мяне ўзнікла ідэя знайсці ў Іркуцку людзей, якія ўсведамляюць сваю беларускасць, каб стварыць свой асяродак. У рэгіянальнай маладзёжнай газеце я надрукаваў аб'яву, у якой прапанаваў усім жадаючым мець беларускія газеты ці азнаёміцца з матэрыяламі з'езда ТБМ патэлефанаваць мне на працу. Знайшліся людзі, якія адгукнуліся на гэтую прапанову. Яны разам са мною і стварылі арганізацыйны камітэт Таварыства. Сярод іх былі артыстка музычнага тэатра Людміла Зевальская, служачая арміі Надзея Банчук, прафесар медыцынскага інстытута Анатоль Рэўт — лепшы ў горадзе нейрахірург,— ураджэнец Слуцка, начальнік цэха аднаго з заводаў Васіль Кісялёў. 23 лютага сёлета адбылося першае яго пасяджэнне.

А потым прыйшоў час вялікай працы з нашымі землякамі, бо трэба было папросту пазнаёміцца з ахвотнымі далучыцца да нашай справы і пазнаёміць іх паміж сабою. 31 траўня мы правялі Першы з'езд беларусаў Іркуцкай вобласці. На ім было абвешчана аб стварэнні Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Я.Д.Чэрскага, прынятыя яго статут і эмблема, вызначаныя мэты дзейнасці.

**— І чым жа займаецца Таварыства?**

— Адна з нашых мэтаў - захаванне беларускай свядомасці, мовы і традыцыйнай культуры ў асяроддзі грамадзян Расіі беларускага паходжання. Бо адны з нашых сяброў жылі ў Беларусі і добра ведаюць яе культуру. Але ж у Сібіры нарадзілася ўжо некалькі пакаленняў мясцовых беларусаў. Мала хто з іх ведае мову, але гэта не замінае людзям памятаць, дзе іхнія карані. Ім хочацца хаця б нешта ведаць пра гісторыю свайго народа.

Таму найперш мы імкнёмся пазнаёміць між сабою мясцовых беларусаў, заахвоціць іх да нейкіх сумесных чынаў. І першай нашай буйной справай стала святкаванне сябрамі нашай арганізацыі Купалля. Народнае свята — гэта не загарадны пікнік, а абрад. І менавіта такім мы стараліся яго зрабіць. Праўда, большасць з нас мала знаёмая з фальклорам. Таму гэты дзень стаў аднačасова і святкаваннем 114-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы, якога ведаюць усе. Мы не толькі палілі вогнішча і спявалі песні, але і чыталі вершы Купалы, ставілі ўрывак з "Паўлінкі". Нават для мяне нечаканым стала тое, што на беларускай мове чыталі вершы дзеці, якія нарадзіліся далёка ад Беларусі. Былі на свяце і карагоды, і пошукі Папараць-кветкі, і вядзьмарка, якая скрала Купалінку...



Зладжанае намі Купалле спрыяла найперш усталяванню асабістых кантактаў. Тое, што звесткі пра яго трапілі ў мясцовыя газеты і нават у дзве рэгіянальныя тэлепраграмы, паспрыяла папулярызацыі нашага Таварыства. Таму нам ужо тэлефанавалі нават з мясцовай украінскай арганізацыі і прапанавалі сумесна ладзіць нейкія імпрэзы. Аб гатоўнасці аказаць нам падтрымку заявілі і мясцовыя ўлады.

У верасні адбылося пасяджэнне рады нашай арганізацыі, на якім быў прыняты план дзейнасці на бліжэйшы час. Мы будзем адзначаць традыцыйныя беларускія святы — Каляды, гуканне вясны, Вялікдзень, Купалле, Дзяды. Мы збіраемся адкрыць беларускую нядзельную школу — аб гэтым ужо ёсць дамоўленасць з дырэкцыяй адной з іркуцкіх школаў у мікрараёне, дзе кампактна жыве шмат беларусаў — пераважна вайскоўцаў і іхніх дзяцей. Гарадскі аддзел культуры нават дае нам дзве стаўкі для гэтай школы — настаўніка беларускай мовы і літаратуры ды настаўніка гісторыі і культуры. Цэнтральная гарадская бібліятэка прадставіць нам месца для збору беларускіх кнігаў. У ёй мы хочам стварыць уласную чытальную залу.

Цікаўнасць да нашай дзейнасці выказваюць не толькі людзі, якія выраслі ў Беларусі, але і іхнія дзеці, якія нарадзіліся тут. Таму мы вырашылі стварыць свой маладзёжны клуб, а пры ім гурткі драматычны і краязнаўчы. Апошні можа ладзіць вандроўкі па Усходняй Сібіры, шукаць там беларускія вёскі, падарожнічаць па маршрутах экспедыцыяў Чэрскага. Магчыма, паспрабуем выдаваць тут свой бюлетэнь з паведамленнямі аб дзейнасці нашай арганізацыі і перадрукам звестак з беларускіх газетаў.

**— Вядома, што сібірскім палякам захаваць сваю тоеснасць дапамагла прыналежнасць іх не толькі да аднаго этнасу, але і да аднай канфесіі. Што яднае сібірскіх беларусаў?**

— Ва ўсялякім выпадку, не вера. Сярод іх ёсць праваслаўныя, каталікі, баптысты, проста атэісты. Таму пытанні канфесійнай прыналежнасці мы ў сваёй арганізацыі імкнёмся абыходзіць. Нас яднае разуменне адзінага паходжання, жаданне захаваць свае культурныя традыцыі, сваю мову.

Аднак праблемы веры закранаюць і нас. Так, напрыклад, мне даводзілася назіраць спробы залічваць да палякаў усіх вернікаў-каталікоў, незалежна ад паходжання. Але ж у мясцовую каталіцкую святыню ходзяць таксама і нашыя землякі, а збудаваная яна рукамі таксама і нашых продкаў — сасланых сюды ўдзельнікаў паўстання 1863 года. І святы Рафаіл, рэшткі якога пахаваныя ў гэтым касцёле, не чужы беларусам. У свеце яго звалі Юзаф Каліноўскі, ён быў блізкім сваяком Вікенція Канстанціна Каліноўскага — кіраўніка паўстання 1863 года. Пасля паўстання ён быў сасланы ў Іркуцк, потым атрымаў дазвол выехаць у Кракаў, і стаў там каталіцкім святаром. Пасля смерці ён быў кананізаваны, а мошчы яго памешчаныя ў іркуцкім касцёле.

**— Беларусаў падзяляе не толькі вера, але і палітыка. Чаму ў эмблеме вашай арганізацыі выкарыстаная менавіта гістарычная беларуская сімволіка, вакол якой на радзіме не сціхаюць спрэчкі?**

— Сімволіка і палітыка ніяк не звязаныя паміж сабой. Рэч у тым, што я — будучы гісторык — ведаю: ва ўсім свеце ўжываецца самая старажытная дзяржаўная сімволіка. Да таго ж, мы — жыхары Расіі — штодня бачым, як у яе друку адкрыта смяюцца з беларускай сімволікі, прынятай пасля мінулагодняга рэферэндуму. Таму мы прынялі эмблему з Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам. Нас яднае наша гісторыя. А сімваламі нашага рэгіёна сталі абрыс возера Байкал і партрэт Чэрскага — чалавека, імя якога вядомае ва Усходняй Сібіры кожнаму.

**— Дзеля чаго Вы прыехалі ў Менск?**

— Каб наладзіць сувязі з Бацькаўшчынай. Дзеля таго, каб захаваць сябе як частку этнасу далёка ад радзімы, нам патрэбная дапамога: літаратура, падпіска на друкаваныя выданні, звесткі пра народныя звычаі і шмат іншага.

**— З якімі нацыянальнымі арганізацыямі Беларусі кантактуе вашае Таварыства?**

— Дагэтуль — пераважна з Таварыствам беларускай мовы. Летась у верасні я ездзіў у адпачынак на радзіму. Каб наладзіць нейкія кантакты, я прыехаў у сталіцу. Знаёмы паказаў мне, дзе знаходзіцца ТБМ і параіў зайсці туды. У Таварыстве мяне спыталі: ці не хачу я прысутнічаць на з'ездзе, які адбудзецца праз месяц? Там, пачуў я, будуць вядомыя ў краіне асобы — Гілевіч, Шушкевіч, Пазьняк, Грыб ды іншыя... На з'ездзе я пазнаёміўся з людзьмі, якія аказалі мне дапамогу — далі нешта з літаратуры, адрасы іншых беларускіх арганізацый у Расіі.

**— "Нешта" — гэта няшмат. А што можа даць Беларусь нашым суайчыннікам за мяжою?**

— Я ведаю, што розныя нацыянальныя арганізацыі тут — ТБМ, "Бацькаўшчына" ды іншыя — праводзяць свае з'езды і канферэнцыі. Мы хацелі б пасылаць на іх сваіх дэлегатаў. Нам ёсць аб чым расказаць і ёсць пра што спытаць. Але на гэта патрэбныя значныя сродкі. Праўда, пазнаёміўшыся са станам рэчаў тут, я не маю пэўнасці, ці дадуць іх нам нейкія дзяржаўныя ці грамадскія арганізацыі.



Нам патрэбная літаратура, бо ўсё, што мы маем,— гэта невялічкая прыватная бібліятэка. Але ж існаванне культурнага асяродка немагчыма без бібліятэкі грамадскай, каб цікавыя кнігі па-беларуску маглі чытаць і дарослыя, і дзеці.

Мы хочам стварыць свой цэнтр беларускай культуры, у якім былі б нейкія вырабы народных мастакоў, народныя строі, музычныя інструменты...

У Іркуцку ёсць музей народнага дойлідства, дзе сабраныя дамы буратаў, казацкія ды ўсіх іншых народаў, што жывуць у краі. Супрацоўнікі музея хочуць мець у экспазіцыі і беларускую хату — такіх яшчэ нямала ў навакольных вёсках. У гэтых хатах захаваліся кросны, жорны, іншыя рэчы побыту. Гэты музей мог бы стаць адным з нашых асяродкаў, але нам патрэбная хаця б літаратура па этнаграфіі. Адным словам, мы маем значна менш, чым хочам.

**— Наведаўшы Бацькаўшчыну, Вы мелі магчымасць азнаёміцца са становішчам тут беларусаў не з газетаў, а асабіста. Ці не зменшыла гэта Вашага энтузіязму?**

— Пабываўшы ў роднай вёсцы, я наведаў школу, у якой калісьці вучыўся. У той час усе дысцыпліны там выкладаліся па-беларуску. Але сёлета там стварылі першы клас з навучаннем па-расійску — і не таму, што гэтага патрабавалі бацькі вучняў. Аказалася дастаткова, каб заяву на тое напісала адна жанчынка, прыезджая.

Высокі ўрадавы чыноўнік у Менску, на дапамогу якога я спадзяваўся, паказаў на значок у выглядзе бел-чырвона-белага сцяга ў мяне на грудзях і заявіў, што гэта — антыдзяржаўная сімволіка.

Але ж я прадстаўляю супольнасць грамадзян іншай дзяржавы, якія самі вызначылі сваю этнічную і культурную прыналежнасць і маюць уласныя ўяўленні пра гісторыю і сімволіку свайго народа. Мы — эмігранты — носьбіты традыцыяў свайго народа, а не прапагандысты новай дзяржаўнай ідэалогіі. Нашыя захады да адраджэння беларускай свядомасці нашых суграмадзян — прыватная ініцыятыва, а не частка дзяржаўнай палітыкі беларускага ўрада.

Таму сваю справу мы будзем працягваць незалежна ад таго, што адбываецца на радзіме. А што тычыцца энтузіязму — яго не паменшала: як у Расіі, так і ў Беларусі ёсць і прыватныя асобы, і цэлыя грамадскія арганізацыі, гатовыя аказаць дапамогу беларусам замежжа. Але энтузіязм і намаганні нашага Таварыства скіраваныя не проста на стварэнне яшчэ адной няўрадавай арганізацыі. Нашая мэта — захаванне нас як народа ў замежжы.

**Гутарыў Уладзімір ПАНАДА.**

**На здымках:**

1. Эмблема іркуцкага Таварыства беларускай культуры.
2. Будынак Іркуцкага гарадскога краязнаўчага музея, заснаванага ў 1889 годзе. Адным з яго стваральнікаў быў Ян Чэрскі, які сабраў для музея мноства экспанатаў і сам працаваў у ім.
3. Імя Чэрскага на будынку музея.

*Беларусы ў свеце*

# Выгнаннік

25 кастрычніка 1991 года далёка ад Радзімы, не ўшанаваны ёю і як бы выкраслены з памяці са зразумелай (але недаравальнай) перасцярогай, памёр Антось Галіна — Міхаіл Міхайлавіч Міцкевіч, малодшы брат Якуба Коласа. Беларуская дыяспара ў Злучаных Штатах і наша Бацькаўшчына страцілі вельмі шчырага, сумленнага і справядлівага абаронцу нацыянальнай спадчыны, чалавека вялікай душы, які пакінуў светлы след у сэрцах тых, хто яго ведаў.

На жаль, пра малодшага брата Якуба Коласа, пра яго лёс вельмі мала што ведаюць на Радзіме. Быў час, калі не ўсё можна было гаварыць, асабліва пра тых, хто нейкім чынам з'ехаў за мяжу. Значыць, лічылі ў афіцыйных колах, меў якуюсь віну перад народам. Таму на натуральнае пытанне наведвальнікаў музея Якуба Коласа пра малодшага брата паэта супрацоўнікі ніякавата паціскалі плячыма... Сёння ёсць магчымасць сказаць праўду пра нашага земляка, жыццё якога ў нейкай меры варта назваць трагічным, бо прайшло яно на чужыне, у вечнай тузе па родных мясцінах, з балючым усведамленнем неўзаемнасці гэтай любові...

Міхаіл Міхайлавіч нарадзіўся ў 1897 годзе ў Альбуці. Гадаваўся на ўлонні прыроды, у штодзённых дружалюбных стасунках з ёю праходзіла дзяцінства Міхася.

У пачатковай школе ў Мікалаеўшчыне ён вучыўся добра, балазе што дзядзька Антось яшчэ да школы навучыў яго грамаце. Пасля хлопец працягваў вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, дзе атрымаў прафесію настаўніка пачатковых вучылішчаў. Да пачатку Другой сусветнай вайны яго жыццё не было пазначана асаблівымі падзеямі: займаўся сельскай гаспадаркай, вёў культурна-асветніцкую работу. Рупіўся, каб родная мова не ўмёрла, каб гучала на Бацькаўшчыне беларуская песня. У час нямецкай акупацыі працаваў на радзіме ў сістэме адукацыі. Вядома, што ён меў сувязь з партызанамі, дапамагаў ратавацца палонным.

Надышоў 1944 год. Заходняя Беларусь, вызваліўшыся ад польскай улады, вытрымаўшы фашысцкую навалу, не паспеўшы перавесці дыханне ад спусташальнага заходняга ветру, адчувала новы навеў — з усходу. І каго-нікаго ён таксама пужаў — невядомасцю, трывожным прадчуваннем. Сорак чацвёрты стаў паваротным годам у жыцці Міхася Міцкевіча, хоць, па сутнасці, ніякай віны яго перад савецкай уладай не было.

Ён вырашае ехаць за мяжу. Сястра Міхаліна расказвала, як цяжка далося яму гэтае рашэнне, як пакутліва ён раздумваў над ім. Можа і праўда, незвычайны сон, які сасніў ён пад час гэтых разваг, вызначыў яго лёс?

А ўбачыў Міхаіл Міхайлавіч у сне яліну, якая хісталася ад ветру то на ўсход, то на захад, нахіляючыся да самай зямлі. А вяршыня яе была ўквечана галавой "правадыра ўсіх народаў". Елка схілялася ўсё ніжэй і ўрэшце рэшт легла на зямлю галавой — вяршыняй на захад. Міхаіл Міхайлавіч гаварыў, што гэты сон наканаваў яму эміграцыю. Неўзабаве ён развітаўся з Радзімай. У той час яму ўжо быў вядомы лёс дзядзькі Язэпа Лёсіка, які загінуў у Саратаўскай турме. Асцерагаючыся рэпрэсій, а таксама, па словах сястры Мані, адчуваючы, што яго праца на акупіраванай тэрыторыі можа "кінуць цень на Костуся", Міхась рушыў на захад.

Жыў у Чэхаславаччыне, цяслярыў там. Потым пераехаў у Заходнюю Германію, быў інспектарам пачатковых беларускіх школ, якія дзейнічалі ў лагерах, выдаваў беларускія чытанкі.

У 1950 годзе Міхаіл Міхайлавіч пераехаў у Нью-Йорк, дзе займаўся навукова-даследнай працай, пісаў чытанкі для вучняў малодшага ўзросту, даследаваў творчасць Якуба Коласа, узяўшы за аснову "Новую зямлю". Ён быў не толькі рэдактарам газеты "Беларус" у свабодным свеце, але і рэдактарам часопіса "Голас царквы". Да канца сваіх дзён матэрыяльна дапамагаў царкве, дзе ён працаваў аж да пенсіі наглядчыкам.

Псеўданім Міхаіла Міцкевіча "Антось Галіна" не выпадковы. Дзядзька Антось быў ягоным кумірам і дарадцам, самым блізкім сябрам, таму, каб захаваць гэтую святую памяць, ён назваўся Антосем Галінай — напэўна, усведамляючы глыбокую сувязь з каранямі роду Міцкевічаў. Максім Гарэцкі высока цаніў творчасць Міхася Міцкевіча. Ён пісаў: "Вельмі спадзейны і паважаны публіцыст". Мікола Прускі, сваяк дзядзькі Міхася, выдавец часопіса "Беларускі свет" у Амерыцы, прыгадвае: "Дзядзька Міхась і Бацькаўшчына былі нібы параднёнымі... Гэта быў добрай душы і цудоўны чалавек, вялікі патрыёт і любіў сваю Бацькаўшчыну, як нешта святое".

Гэта толькі невялічкі аповяд пра малодшага брата Коласа. Матэрыялы пра яго патрэбна збіраць і даследаваць. Ён быў усебакова развітым чалавекам, шмат пісаў, друкаваўся ў перыядычным друку і іншых выданнях, пачынаючы з 1918 года. Тэмай яго апавяданняў, артыкулаў было жыццё сялян, семінарыстаў, настаўнікаў. У апошнія гады свайго жыцця ён пераклаў на беларускую мову Напрыстольнае і Паспалітае Евангелле, якое друкавалася ў Амерыцы.

Таму варта, каб Бацькаўшчына мела памяць пра свайго сына, каб не была забыта яго магіла на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, дзе пахаваны наш зямляк.

**Мікола ЖЫГОЦКІ,**
**супрацоўнік літаратурнага музея Якуба Коласа.**

*Замежжа* *Замежжа*

*Чыталі?*

# "Форум"

Выйшаў з друку новы, чацвёрты нумар гэтага бюлетэня, выдаванага групай даследавання і абароны правоў нацыянальных меншасцяў пры грамадскім Цэнтры еўрапейскіх доследаў і культурных ініцыятываў "Эўрафорум". Але тэматыка артыкулаў, змешчаных у бюлетэні, шырэйшая, чым можа падацца з назвы выдавецкай суполкі. Публікацыі "Форума" асвятляюць праблемы жыцця не толькі нацыянальных, але і этнічных, культурных, моўных і рэлігійных меншасцяў краіны, і таму сфера інтарэсаў іх аўтараў надзвычай шырокая.

У рэдакцыйным артыкуле, аўтарам якога з'яўляецца сябра рэдакцыйнай калегіі выдання А.Дынько, разглядаюцца спробы арганізацыі ў Беларусі антыўкраінскай кампаніі — шэраг акцыяў праваахоўных органаў і дзяржаўных масмедыя, скіраваных на дыскрэдытацыю эканамічнага і палітычнага курсу Украіны, наданне ўкраінскім дзеячам вобліку агрэсіўных экстрэмістаў. У гэтай жа публікацыі разглядаецца гісторыя ўзаемных дачыненняў беларусаў і ўкраінцаў у нашай краіне, дзейнасць у Беларусі ўкраінскіх арганізацый і іх друку ды цяперашняе стаўленне да ўкраінскай меншасці дзяржаўных уладаў.

600-годдзю пасялення татараў і татарскага асветніцтва на землях Беларусі, Летувы і Польшчы, распачатага пры Вітаўту Вялікім, прысвечаны артыкул аднаго з лідэраў беларускіх татараў Ібрагіма Канапацкага "Стала роднай ім беларуская зямля...".

"Лісты рускага беларуса" — так называецца артыкул А.Кіштымава, навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Акадэміі навук, даследніка гісторыі беларускай геапалітыкі і праблем фармавання беларускай нацыі. Аўтар гэтай публікацыі разглядае аспекты існавання этнічных расійцаў і іх культуры ў беларускай дзяржаве. "Ад таго, як справа фармавання беларускай нацыі пойдзе далей, ад выбару беларускага народа будуць урэшце залежаць і лёсы іншых народаў Беларусі. Выбар на карысць незалежнасці будзе азначаць для іх не страту сваёй ідэнтычнасці, а атрыманне новай якасці, магчымасці жыць у сярэднееўрапейскай краіне, якая абапіраецца на каштоўнасці сусветнай цывілізацыі. Але гэта — ідэал, вельмі далёкі ад сучасных эканамічных і палітычных беларускіх рэаліяў", — робіць выснову навуковец.

Праблемы расійскай меншасці ў Беларусі разглядаюцца і ў апублікаваных у нумары выніках апытання на гэтую тэму. Яго ўдзельнікамі сталі старшыня беларускага таварыства немцаў "Адраджэнне" А.Майснер, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культураў В.Мацюшэнка, старшыня Менскага гарадскога таварыства рускай культуры "Русь" Г.Уласаў, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі ўкраінцаў "Ватра" Б.Міхайлюк ды іншыя асобы.

"Нацыянальная меншасць: праблемнасць паняцця, беларускія рэаліі" — у гэтым артыкуле акадэмік Н'ю-Ёркскай Акадэміі навук, прафесар І.Левяш выказвае меркаванне аб непажаданасці ўжывання паняццяў "большасць" і "меншасць" у дачыненні да розных частак беларускага грамадства. Больш слушным, на думку амерыканскага навукоўца, будзе выкарыстанне ў дачыненні да частак грамадства нашай краіны паняцця "нацыянальная супольнасць" незалежна ад колькасных характарыстык гэтых групаў. Для беларусаў прынцыпова важнай ёсць самаідэнтыфікацыя ў якасці не "большасці", а адзінай (незалежна ад ужыванай імі мовы) тытульнай этнічнай супольнасці, лічыць ён.

Шмат месца ў бюлетэні займаюць звесткі аб спадчыне нацыянальных меншасцяў Беларусі. Чатыры публікацыі гэтага нумара прысвечаныя мінуламу беларускіх габрэяў — іхняй мове, культуры, дзейнасці іх нацыянальных арганізацый у мінулым і гэтым стагоддзях.

У раздзеле "Юрыспрудэнцыя" "Форум" змяшчае тэкст праекта распрацаванай у Беларусі канцэпцыі нацыянальна-культурнага развіцця нацыянальных меншасцяў.

На апошніх старонках выдання падаецца інфармацыя пра створаную нядаўна Асацыяцыю беларускіх карэйцаў і пра навуковую канферэнцыю аб праблемах меншасцяў, што адбылася сёлета ў Віцебску.

**У.П.**

# "Wiedza Powszechna" прадстаўляе




Польскае выдавецтва "Wiedza Powszechna" (Варшава) ад пачатку існавання спецыялізавалася ў выданні навучальнай, дапаможнай і падручнай літаратуры. Сёлета яно выпусціла ў свет кнігі, якія, без сумлеву, прыцягнуць да сябе ўвагу па абодва бакі беларуска-польскай мяжы. Бо іх аўтары, у адрозненне ад цяперашняга кіраўніцтва нашай краіны, не маюць сумлеву ў першаснасці беларускай мовы ў беларускай дзяржаве.

Назва першага з гэтых выданняў — "Slownik białorusko-polski, polsko-białoruski". Больш чым на 600 старонках гэтай кнігі кішэннага фармату змешчана каля 20 000 словаў на абедзвюх мовах з прыкладамі іх ужывання ў фразах, зваротах, сказах і фразеалагізмах. У асобных спісах пададзеныя геаграфічныя назвы і скарачэнні. Акрамя таго, у канцы слоўніка знаходзіцца прызначанае спецыяльна для яго польскамоўных карыстальнікаў апісанне важнейшых асаблівасцяў беларускай мовы.

Слоўнік мае рэцэптыўна-прадуктыўны характар, у выніку чаго карыстанне ім дазваляе лёгка разумець і ствараць простыя тэксты і выказванні. Ён прызначаны для шырокага кола карыстальнікаў, якія ведаюць польскую ці беларускую мовы або знаёмыя толькі з адной з іх.

Лексічны і сінтаксічны матэрыял слоўніка паходзіць пераважна з сучасных літаратурных польскай і беларускай моваў. Але ў ім улічаныя і спецыялізаваная тэрміналогія, а таксама гутарковая лексіка ды кніжны стыль.

На думку аўтараў выдання Тэрэсы Ясіньскай і Альберта Барташэвіча, слоўнік будзе патрэбным найперш моладзі — вучням польскіх пачатковых і сярэдніх школаў з беларускай мовай выкладання ды студэнтам беларускай і славянскай філалогіі.

Асобнікі гэтага выдання ўжо трапілі ў Беларусь. Іх уладальнікамі сталі пераможцы конкурсаў беларускай рэдакцыі 5 праграмы польскага радыё, якія атрымалі слоўнікі ў якасці прызоў.

Яшчэ адной навінкай выдавецтва стала кніга Станіслава Шадыкі і Аліны Вуйцік "Minirozmowki białoruskie". Гэты размоўнік прызначаны для польскіх турыстаў, што наведваюць нашую краіну. Ён утрымлівае набор пытанняў, адказаў, словаў і зваротаў, які дае магчымасць паразумецца палякам з беларусамі, карыстаючыся іх роднай мовай.

**У.ПАНАДА.**

# Праблема пануючага народа

Праблемаю для шмат якіх былых рэспублік СССР стала страта іх грамадзянамі расійскага паходжання свайго колішняга статуса дамінуючага народа. Мноства праблем у гэтых краінах стварае менавіта імкненне этнічных расійцаў па-ранейшаму адчуваць сваю перавагу, якое часам набывае форму не толькі палітычных, але і збройных канфліктаў, такіх, як у Чачні.

З падобнымі праблемамі ў свеце даводзіцца сутыкацца і іншым — як краінам, так і цэлым народам. Прыклад таму — Заір.

Большасць афрыканскага народа тутсі дагэтуль жыла ў Заіры. У Руандзе яны пачалі сяліцца толькі апошнім часам. Чаму? Яны ўцякаюць з Заіра, баючыся нападаў з боку іншага народа — бхуту. Канфлікт дасягнуў такой ступені, што на мяжы Заіра з Руандай нават адбываюцца перастрэлкі паміж уцекачамі-тутсі і пераследнікамі-бхуту. Шмат хто з заходніх назіральнікаў у гэтым рэгіёне лічыць, што гэта — пачатак працэсу стварэння бхуту ўласнай дзяржавы — Бхутулэнда.

Услых пра гэта не гавораць, але менавіта да такой высновы можна прыйсці, назіраючы працэсы на ўсходзе Заіра. Там, у паўднёвых раёнах заірскай правінцыі Ківу тутсі жылі на працягу некалькіх соцень гадоў. Іх колькасць, паводле розных дадзеных, складала ад 10000 да 30000 асобаў. Але гэтая супольнасць сёння знаходзіцца ў небяспецы. У Ківу адбываюцца рэгулярныя этнічныя чысткі, у выніку якіх этнічных тутсі ў рэгіёне ўжо амаль не засталося.

Іх выцясняюць не толькі заірскія бхуту. Ратуючыся ад генацыду, у Заір уцяклі каля мільёна бхуту з Руанды. Але многія з гэтых людзей дагэтуль былі ўдзельнікамі атрадаў апалчэння ці салдатамі рэгулярнай арміі. Гэта значыць, што яны самі раней здзяйснялі акцыі этнічных чыстак у дачыненні да іншых народнасцяў Руанды. Яны маюць адпаведныя перакананні і навыкі ў справе масавага знішчэння людзей. Менавіта яны рабуюць і паляць у Заіры селішчы тутсі, выракаючы тых на выгнанне. Але што стаіць за гэтым — этнічная варажнеча ці нейкі палітычны план?

Цяпер бхуту, насуперак высілкам рэгулярнай арміі краіны, імкнуцца ўзяць пад свой кантроль Усходні Заір. Калі так здарыцца, яны атрымаюць стратэгічную перавагу ў гэтым рэгіёне, стварыўшы тэрытарыяльны плацдарм для свайго палітычнага руху. Сёння яны жывуць у лагерах для ўцекачоў і атрымліваюць спамогу ад міжнародных гуманітарных арганізацыяў. Але падставаў да аказання дапамогі робіцца ўсё меней. Шмат хто ўважае, што, не маючы падтрымкі звонку, бхуту пачнуць ствараць уласную мілітарызаваную дзяржаву, не зважаючы на існаванне іншых дзяржаўных межаў у гэтым рэгіёне, у першую чаргу — заірскіх. Не выключана, што падмуркам Бхутулэнда стануць паўночныя і паўднёвыя раёны ўсходнезаірскай правінцыі Ківу. Першай ахвярай агрэсіі новай дзяржавы можа стаць тая ж Руанда, лічаць афрыканісты. Але развіццё падзеяў будзе залежаць і ад падзеяў у Бурундзі. Бо на поўначы Ківу жывуць пераважна руандыйскія бхуту, а на поўдні — бурундыйскія, якія здзяйсняюць напады на Бурундзі. І ўрад гэтай краіны гатовы зрабіць адпаведныя захады. Але ці паспрыяюць яны захаванню суседняга Заіра як адзінай дзяржавы, а народа тутсі — як часткі яго насельніцтва?

**Падрыхтаваў У.П.**

# "Ненавіджу гэтую краіну!"

За два апошнія гады мноства беларусаў дорага (у поўным сэнсе гэтага слова — грашовым спагнаннем і нават зняволеннем) заплаціла за свае выказаныя ўслых меркаванні аб краіне і яе кіраўніцтве. Але падобную цану даводзіцца плаціць не паўсюль. Прыклад таму — нядаўняе здарэнне ў сталіцы Ізраіля.

Сярод дня з дзвярэй вялікага адміністрацыйнага будынка ў цэнтры Тэль-Авіва выйшаў чалавек. "Ну і дурная краіна! — закрычаў ён уголас.— Хіба гэта нармальная краіна?!"

Падобным спосабам ён выказваў свае пачуцці на працягу колькіх хвілінаў. Тое, што чалавек незадаволены родным краем, было ясна ўсім навокал. Але ўсе, хто назіралі гэтую сцэну, не звярталі на яе вялікай увагі, нягледзячы на тое, што водгукі незадаволенага рабіліся ўсё гучнейшымі і ўсё менш карэктнымі. Становішча змяніў афіцэр паліцыі, чые патрыятычныя пачуцці былі, відавочна, закранутыя ўбачаным. Пасля таго, як крыкун, які меў выгляд сапраўднага валацугі, не выканаў яго патрабаванне змоўкнуць, паліцыянт без разважанняў надзеў на яго кайданкі і даставіў у пастарунак, склаўшы пратакол аб ганьбаванні роднага краю.

Праз некалькі дзён у міравым судзе Тэль-Авіва адбыўся працэс над парушальнікам парадку. Сведкам на ім выступіў той жа паліцыянт. Але падобная справа была першай у практыцы суддзі. Не было падобных прэцэдэнтаў і ў ягоных калегаў. Ніводзін з кодэксаў папросту не прадугледжваў пакарання за выказ асабістых поглядаў. Бо як бы давялося абыходзіцца з удзельнікамі антыўрадавых мітынгаў, якія выказваюцца аб урадзе значна менш разборліва, ці з дэпутатамі кнэсета — адвечнымі парушальнікамі парадку?

Пасля кароткіх разважанняў суддзя абвясціў прысуд: "Штраф сто долараў на карысць пацярпелага!" і паказаў на валацугу, якому паліцыянт перашкодзіў выказваць думкі. Акампанементам выраку суда стаў гучны смех падсуднага.

**Падрыхтаваў У.П.**

# Веруем

## Асвечаны новы касцёл

13 кастрычніка ў Баранавічах быў асвечаны новы касцёл Маці Божай Фацімскай, пабудаваны ў сціслы тэрмін дзякуючы намаганням святароў ордэна Місіянераў Божага Слова, якія з 1991 года працуюць у Баранавічах. Вынікамі іх работы стала адкрыццё ў горадзе тэалагічнага інстытута, пабудова місіянерскага цэнтра і цяпер новага касцёла, які асвяціў кардынал Казімір Свёнтак у прысутнасці вялікай колькасці духавенства і вернікаў. Дата 13 кастрычніка была абрана для адкрыцця святыні зусім не выпадкова. Менавіта ў гэты дзень 1917 года было апошняе аб'яўленне Божай Маці тром дзецям у партугальскім мястэчку Фаціма, у якім Дзева Марыя казала пра лёс свету ў XX стагоддзі.

Як адзначалі святары і вернікі, на шляху пабудовы новай бажніцы паўставала шмат перашкодаў. Летась нейкія нягоднікі спілавалі драўляны крыж, усталяваны на месцы будаўніцтва касцёла, не раз у бок святароў гучалі пагрозы, але вернікі ўпэўненыя, што імі апекавалася Багародзіца, таму пачатую справу ўдалося давесці да канца.

Патрэба новага касцёла ўжо даўно была надзённай для баранавіцкіх каталікоў. Адзіны ў горадзе невялікі касцёл, пабудаваны ў 20-я гады, ужо не мог задаволіць духоўных патрэбаў усіх вернікаў. З-за вялікага напліву людзей трапіць на нядзельную службу стала досыць складана. Ініцыятыўная група вернікаў звярнулася да кардынала Свёнтака з просьбай даць дазвол на будаўніцтва новай бажніцы. У 1994 годзе мітрапаліт выдаў адпаведны дэкрэт, і за няпоўныя два гады касцёл быў пабудаваны.

Яго адкрыццё стала значнай падзеяй у жыцці горада, на якое прыбылі госці з розных канцоў Беларусі, а таксама Летувы, Польшчы і нават экзатычнай Новай Гвінеі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Жыццё святара і патрыёта выдадзена па-беларуску

У менскіх каталіцкіх кнігарнях з'явілася работа біскупа Пацыфіка Дыдыча "З падляскай зямлі прызваны" — пра жыццё і дзейнасць дабраслаўлёнага Ганарата Казмінскага, манаха-капуцына, вядомага ў Каталіцкім Касцёле тэолага і прапаведніка, які жыў і працаваў на этнічна блізкай Беларусі падляскай зямлі.

Дабраслаўлёны Ганарат (свецкае імя Вацлаў) паходзіў з не вельмі заможнай шляхецкай уніяцкай сям'і, якая перайшла на лацінскі абрад, каб не прымаць праваслаўя, што яшчэ раз пацвярджае беларускія карані галоўнага героя. Хаця змест кнігі вытрыманы ў жанры біяграфічнага апавядання, побач з жыццёвымі дзеямі Ганарата прыводзіцца шмат гістарычных фактаў.

Грунтоўна апісаная барацьба і пакутніцтва падляскіх беларусаў-уніятаў за сваю веру, падзеі паўстання 1863 г. і многа іншых цікавых звестак. Шырока апавядаецца аб дзейнасці Ганарата па ўмацаванні манашых супольнасцяў у Польшчы, якія асабліва пасля паразы студзеньскага паўстання фактычна апынуліся пад забаронай з боку расійскіх акупацыйных уладаў. У гэтай сітуацыі Казьмінскі паўстае не толькі як рэлігійны дзеяч, але і як шчыры патрыёт сваёй Айчыны, ідэалам якой, як і для большасці інтэлігенцыі XIX ст., была Рэч Паспалітая абодвух народаў. Ва ўмацаванні сярод народа каталіцкай веры і захаванні царкоўных інстытутаў бачыў Ганарат Казьмінскі свой хрысціянскі і патрыятычны абавязак.

Бадай галоўным недахопам кнігі з'яўляецца не вельмі пісьменны пераклад на беларускую мову. Відавочна, што яго рабіў не прафесійны перакладчык, а чалавек, які лічыць, што валодае мовай дастаткова. У выніку ў перакладзе трапляецца вельмі шмат польскіх слоў і абаротаў. Будзем спадзявацца, што ў наступны раз ініцыятары выдання ўсё ж звернуцца да сапраўдных прафесіяналаў.

У дадзеным выпадку цікавы сам факт выдання польскімі манахамі кнігі па-беларуску ў той час, калі дзяржаўнымі ўладамі вядзецца наступ на ўсё беларускае. Вельмі добра па-мастацку афармленая, на цудоўнай паперы з каляровымі фотаздымкамі. Без сумніву яна знойдзе ў Беларусі свайго чытача.

**Я.А.**

## Паломніцтва ў Альбертын

У грэка-каталіцкіх парафіях Беларусі працягваецца святкаванне юбілею 400-годдзя Берасцейскай уніі. Нядаўна група вернікаў з Гародні і Полацка наладзіла пілігрымку ў Слонім і Альбертын, каб ушанаваць памяць місіянераў-езуітаў усходняга абраду, якія працавалі там у 20-40-я гады.

Урачыстасці распачаліся святой літургіяй у слонімскім касцёле Маці Божай Каралевы Свету, адпраўленай айцом Віктарам Данілавым з Гародні і ераманахам Бэнэдыктам, абатам полацкага кляштара святых Барыса і Глеба. На літургіі прысутнічала звыш сотні вернікаў-каталікоў лацінскага і ўсходняга абрадаў. Айцец Віктар звярнуўся да іх з казаннем, у якім назваў духоўным подзвігам дзейнасць альбертынскіх місіянераў, якія прыбылі туды з розных краін, каб несці духоўную паслугу народу і адраджаць яшчэ не зусім забытую "веру бацькоў". Па прыкладзе нашых слаўных папярэднікаў, працягваў святар, сучасныя беларускія грэка-каталікі павінны прыкласці ўсе намаганні на карысць справы еднасці хрысціянаў і вернасці Апостальскай Сталіцы.

Пасля службы ўрачыстая працэсія вернікаў выйшла на дзядзінец касцёла, дзе быў усталяваны трохметровы каваны крыж з мемарыяльнай шыльдай "Памяці айцоў-езуітаў усходняга (грэка-каталіцкага) абраду, якія жылі і працавалі тут у 1923-1942 гадах. 400-я ўгодкі Берасцейскай уніі, 1996 г." Крыж асвяціў айцец Бэнэдыкт Алексійчук, які звярнуўся да прысутных з пранікнёнай прамовай. Ад імя вернікаў выступілі спадары Трацяк і Сільвановіч, якія адзначылі важную ролю нэауніі ў развіцці беларускага рэлігійнага і нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі.

Ці не самым галоўным вынікам пілігрымкі стала ўтварэнне ў Слоніме грэка-каталіцкай суполкі, якой заапекаваліся гарадзенскія вернікі.

**Язэп СІНІЦКІ.**

## Епіскапат Францыі асуджае Ле Пэна

Біскуп Жак-Жорж Дэлэдзікуа з Ліля, кіраўнік камісіі епіскапату па справах міграцыі, звярнуўся з адкрытым лістом "Не — словам, якія забіваюць". Не называючы прозвішча кіраўніка Нацыянальнага фронту Жан-Мары Ле Пэна, біскуп асудзіў яго нядаўнія выказванні.

Дакумент, падпісаны іншымі сябрамі камісіі, сцвярджае: "Калі публічны палітык дазваляе сабе сцвярджаць, што няроўнасць рас — гэта праўда, з'яўляецца небяспека для ўсяго грамадства." Гэтае сцвярджэнне падрывае падставы грамадскай салідарнасці, так патрэбнай у час сучаснага крызісу. Далей у лісце нагадваецца, што хрысціянін не можа прыняць такіх слоў. Годнасць усіх людзей, якая абапіраецца на Божым вобразе, складае падставу братэрства. Напрыканцы ліста біскуп Дэлэдзікуа гаворыць пра абавязковае прыбранне з грамадскага жыцця ўсялякай дыскрымінацыі, як спрэчнай з Божым замыслам.

Асуджэнне біскупаў выклікала нядаўняе выказванне кіраўніка Нацыянальнага фронту, які сцвердзіў, што расавую няроўнасць нельга пераадолець. На яго думку, афрыканцы больш здольныя ў спорце, а еўрапейцы — у матэматыцы і філасофіі. Жан-Мары Ле Пэн лічыць таксама, што афрыканская цывілізацыя ніколі не параўнаецца з французскай. Старшыня Французскага Нацыянальнага фронту быў ужо пакараны вялікімі штрафамі за "заклікі да расавай нянавісці". Апошнім часам расавая нецярпімасць стала вельмі частай з'явай у Францыі. У выніку міграцыі з афраазіяцкага рэгіёна ў краіне з'явілася вялікая колькасць арабаў і неграў. Многія французы лічаць, што гэта можа нанесці істотную шкоду нацыянальным традыцыям і культуры. Па некаторых звестках колькасць мячэцяў у Парыжы да 2000 года можа перавысіць колькасць хрысціянскіх бажніц, і далёка не ўсе іх прыхаджане з'яўляюцца традыцыйнымі мусульманамі.

**Ян АСКЕРКА.**



У ноч з 19 на 20 кастрычніка ў Заслаўі здзейснены акт вандалізму: невядомымі пакуль асобамі быў падпалены помнік архітэктуры XVI стагоддзя — Спаса-Прэабражэнская царква, якая ў выніку пажару моцна пацярпела. Калі меркаваць па пакінутых злачынцамі знаках і надпісах кшталту "смерць хрысціянам!", яны адносяць сябе да так званых сатаністаў, г.зн. увасабляюць сабою сілы зла. І ўсё-такі верыцца, што ў змаганні са злом пераможа дабро.

**На здымку:** Храм пасля пажару. **Фота БЕЛТА.**

## Клуб перакладчыкаў

# "Падказвае народная гаворка"

*Трэба бясконца шукаць і дасканаліць сродкі... Пісаць простаю, натуральнаю, народнаю моваю.*

***Я.Скрыган.***

**Любата, свідравіна, лецішча, смаката, радовішча...** Ці ўсе ведаюць, што менавіта Ян Скрыган узбагаціў беларускую мову гэтымі прыгожымі ды ёмістымі словамі? Вялікае значэнне надаваў майстар слова моўным пытанням — праблеме дасканаласці стылю, выбару дакладных і арганічных сродкаў. Гэтаму ён прысвяціў шматлікія артыкулы, якія склалі раздзел "Чары слова" ягонага збору твораў. Нездарма Сяргей Грахоўскі гаварыў пра Яна Скрыгана, як пра "ювеліра слова, сказа і інтанацыі". Пацвярджэнне таму — паэтычная, празаічная творчасць Скрыгана і яго перакладніцкая дзейнасць.

Звычайна ў навуковай літаратуры звяртаюць увагу на значэнне перакладу ў наладжванні ўзаемаразумення паміж асобнымі людзьмі, народамі, нацыянальнымі літаратурамі. Бо дзякуючы перакладам чытач знаёміцца з творамі іншай культуры, якія такім чынам папаўняюць арыгінальную літаратуру. Праца над перакладам выклікае патрэбу перагледзіць і па-новаму асэнсаваць рэсурсы роднай мовы.

Вельмі цікавымі ўяўляюцца расійска-беларускія перакладніцкія сувязі. Зразумела, у большай ці меншай ступені, носьбітам абедзвюх моў арыгінальны і перакладны творы строга ацэньваюцца, нават і не спецыялістамі-філолагамі: ці ўдалося перакладчыку захаваць дух твора, яго стыль, вобразны лад. Таму перакладчык павінен адчуваць стылявыя адценні, суадносіны думкі і слова, магчымасці і адметнасці кожнай з моў, валодаць культурай маўлення.

Вядома, што Ян Скрыган перакладаў на беларускую мову А.Астроўскага, М.Горкага, І.Буніна, К.Федзіна, украінскіх, летувіскіх, латышскіх і эстонскіх пісьменнікаў. Скрыгана асабліва вабіў пераклад апавяданняў — аднаго з самых ёмістых і даўніх жанраў мастацкай літаратуры, які прыйшоў з вуснай народнай творчасці.

На прыкладзе аднаго апавядання М.Зошчанкі — "Лазня" —паспрабуем прасачыць, якімі сродкамі беларускай мовы перададзены змест і стыль мастацкага твора.

Карней Чукоўскі назваў Міхаіла Зошчанку пачынальнікам мастацкага выкарыстання размоўнага стылю ў расійскай літаратуры, азначыў, што мова Зошчанкі не створана і не выдумана, а выхаплена аўтарам з самога жыцця. У беларускай літаратуры размоўная стыхія (прыгадаем сакавітую мову "Пінскай шляхты" Дуніна-Марцінкевіча, гумарыстычныя апавяданні Коласа) гарманічна суіснавала з кніжным стылем, а часам і папярэднічала яму. Хаця сродкі размоўнага стылю ў расійскай і беларускай мовах маюць шмат агульнага, але калі зважаць на некаторыя словы, фразеалогію, граматычныя мадэлі і сінтаксічныя канструкцыі, выявяцца вельмі цікавыя адрозненні. Менавіта яны надаюць твору адметную, пазначаную духам мовы, гармонію і суладнасць. Тэарэтычна ведаў гэта і практычна выкарыстоўваў Ян Скрыган.

У славутым Зошчанкавым апавяданні найперш заўважаецца поўная адпаведнасць размоўнай інтанацыі і своеасаблівай пабудовы сказаў, што выразна захавана ў перакладзе. Звернемся да прыкладаў (дыялог з лазеншчыкам).

| | |
|---|---|
| — Братишка, а вдруг да дрянь останется? Не в театре же, говорю. Выдай, говорю, по приметам. Один, говорю, карман рваный, другого нету. Что касаемо пуговиц,— то, говорю верхняя есть, нижних не предвидится. | — Братачка, а раптам ды дрэнь астанецца? Не ў тэатры ж, кажу. Выдай, кажу, па прыкметах. Адна, кажу, кішэня падраная, другой няма зусім. Што да гузікаў, то, кажу, верхні ёсць, ніжніх не выстрачае. |

Адпаведная размоўная інтанацыя ствараецца няпоўнай пабудовай сказаў **(не ў тэатры ж, кажу. Выдай, кажу, па прыкметах)**, звароткам **(братишечка-братачка)**, а таксама неаднаразовым паўторам слова **кажу (говорю)**. Захоўваецца не толькі знешняя падабенства паміж арыгінальным і перакладным тэкстамі. Скрыган дакладна ўзнаўляе рытмічны малюнак твора Зошчанкі. Пры гэтым нельга папракнуць перакладчыка ў механічным пераносе рытму. Тут дарэчы прыгадаць словы Скрыгана, што "найбольш шкодзяць нам сінтаксічныя парушэнні ад механічнага перанясення законаў адной мовы на другую. Мы павінны больш уважліва ставіцца да таго, як пішам... **Правільнасць напісання падказвае народная гаворка.** Калькавы пераклад жывой гаворкі — гэта заўсёды ненатуральнасць. А ўсялякая ненатуральнасць ніколі не дасць пачуцця". Пачуццё ж віруе ў аўтара і ў перакладчыка. Лагодная просьба, з адценнем гумарыстычнага стаўлення размоўцы да сябе, у цытаваным урыўку натуральна ўвасоблена ў гутарковае беларускае маўленне. У поўнай меры перададзена тут, як і ва ўсім творы, эмацыйнасць — адметная рыса размоўнага стылю.

Бясспрэчна, Скрыган памятаў, што рытм прозы звязаны з кампазіцыйна-сінтаксічнымі асаблівасцямі арыгінала, як і пра тое, што ўнутраная цэласнасць твора пры перакладзе з расійскай мовы на беларускую ствараецца яшчэ і адметнымі (у кожнай з моў) лексіка-граматычнымі сродкамі. Гэтыя моўныя адзінкі дазваляюць перакладу стаць асобным творам і каштоўным здабыткам беларускай літаратуры.

**Ірына ГАЛУБЕНКА, студэнтка.**

*(Працяг будзе.)*

*"Бунін — па часе апошні з класікаў расійскай літаратуры, чый вопыт мы не маем права забываць... Пяро Буніна — бліжэйшы да нас па часе прыклад падзвіжніцкай патрабавальнасці мастака, высакароднай сціпласці расійскага літаратурнага пісьма, яснасці і высокай прастаты, якая чужая нікчэмным хітрыкам формы дзеля самой формы".*

***А.Твардоўскі.***

***І.А.БУНІН***

### *Слова*

Маўчаць грабніцы, муміі і косці.
Пісьмёны — не маўчаць:
З глыбінь сівых стагоддзяў, на пагосце
Адны яны гучаць.

Багацце ў бедных — толькі Слова.
І годны, хто збярог,
У дні нягод і злыдняў — скарбы мовы,
Што дараваў нам Бог.

*1915*

### *Радзіме*

О, колькі ў словах іхніх здзеку,
Радзіма, як гучыць дакор
За выгляд жабрака-калекі,
За спарахнелых хат дакор.

Так чуе сорам сын-нахаба
Сярод насмешлівых сяброў
За маці, проста з вёскі бабу,
Што завітала ў госці зноў.

Глядзіць з усміхам спачування:
За сотні ж вёрст сюды ішла
І для яго, да дня спаткання
Апошні грошык берагла.

*1891*

* * *

Я шчаслівы, як у вочы ветла
Два азерцы глянуць на мяне.
Чысціня ў іх, як у небе светлым,
І надзея, што не падмане.

Горка мне, як вейкі апускаеш,
А сама ад сораму гарыш.
Ты кахаеш, хоць сама не знаеш,
Тоіш ты каханне і маўчыш.

І без змен, усюды і штодзённа
Ля цябе гарыць душа мая...
Сябра мой! Хай будуць блаславёны
Хараство і маладосць твая.

*1896*

**Пераклаў з расійскай Павел МІСЬКО.**

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**Францішак Багушэвіч**

**Вучымся**

**Вікторыя ЛЯШУК,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Купалаўскі "Лён"

*Расце лён, клапатліва, дбайна дагледжаны ўмелымі рукамі, расце ў душы гераіні пачуццё да яе абранніка.*
**Іван Навуменка.**

У мастацкім тэксце эстэтычную значнасць можа набываць любое самае празаічнае слова. Важна, каб пісьменнік адчуў яго вобразныя магчымасці, здолеў перадаць у ім свае пачуцці, жыццёвы вопыт, адметнае светаўспрыманне, мастацкія традыцыі.

Абраўшы тэматычным стрыжнем аналізаваных рознастылёвых тэкстаў лён — рэалію, важную для нацыянальнай (і матэрыяльнай, і духоўнай) культуры,— найперш звернемся да беларускай паэтычнай класікі — аднайменнага верша Янкі Купалы. У гэтым творы лён вобразна асэнсоўваецца для апісання душэўнага стану асобы, перадачы руху і развіцця чалавечых пачуццяў, што ўласціва беларускаму фальклору, адпавядае народнаму светапогляду на арганічную сувязь людзей з прыродай, ідэальнаму ўяўленню беларусаў пра каштоўнасць жыцця ў працы. Як заўважае вядомы літаратуразнавец М.Ярош, "Купала абраў аб'ектам працы герояў і фонам для іх пачуццяў лён, што збліжае твор з песенна-абрадавай паэзіяй, у якой песні пра лён займаюць значнае месца". Сваёй мілагучнасцю, кампазіцыйнай зладжанасцю, унутраным рытмам і выразнай рыфмай верш адпавядае ўсім канонам. Прыпевам успрымаецца і паўтор, у якім вобразныя азначэнні **чысты, валакністы, залацісты** з'яўляюцца не толькі трапным апісаннем: яны называюць істотныя якасці гаспадарчай культуры, якую з вялікім стараннем апрацоўвае лірычная гераіня твора, ставячыся да лянка з вялікім замілаваннем:

*Як на поле, на зямлю*
*Прыйшла раніца вясны,*
*Я пасеяла ў раллю*
*Жмені зёран ільняных.*
*Неба сеяла цяпло,*
*Цёплы дожджык церушыў,*
*У думках радасна было,*
*Беглі песні ад душы.*
*Ой, лянок, лянок мой чысты,*
*Валакністы, залацісты!*
*Як расці стаў, як падрос,*
*Як лісткі ўзняў дагары,—*
*Лён палола з ранніх рос*
*Да вячэрняе зары.*
*Сэрца ныла, бы з нуды,*
*Бы сама была не ўся,—*
*Спадабала я тады*
*Брыгадзіра Міхася.*
*Ой, лянок, лянок мой чысты,*
*Валакністы, залацісты!..*

Гэты спеўны светлы верш увасобіў тонкую летуценную натуру, якая заўважае навакольную прыгажосць, цеплынёй сваёй душы ажыўляе свет, што перададзена ў дзеясловах актыўнага дзеяння: **прыйшла раніца вясны, неба сеяла цяпло, беглі песні ад душы, лён лісткі ўзняў дагары, надзеў ... галоўкі на сябе, святло льецца цераз край, засвяціў ... лён шаўковым валакном, промень ясны загуляў**.

Захапленне гераіні плёнам сваёй працы перадае эмацыйнае параўнанне **як цудны сон**. Пры гэтым аўтар захоўвае строгую паслядоўнасць сюжэта, суаднесенага з гаспадарчым календаром. Кампазіцыйным стрыжнем ён выбірае дэталізацыю асобных момантаў у стадыі вырошчвання ды апрацоўкі льну, выкарыстоўваючы льнаводчую тэрміналогію (**лён абіваць, семя арфаваць, слаць, пранік, мяльніца, трапло**).

Як бачым, Купалаў "Лён" перадае ў вобразным асэнсаванні расліны не толькі яе знешнія прыкметы, але і рух часу, віраванне чалавечых пачуццяў, аўтарскае захапленне маладосцю ды сімвалам жыцця, працы — беларускім ільном.

**Практычная стылістыка**

# Мець здольнасць

Пагаварыць пра стылістычныя асаблівасці аднакарэнных слоў **здолець, здольны, здольнасць** прымушаюць радкі абітурыенцкіх сачыненняў.

1. Калі мы не будзем шанаваць прыроду, то *здолеем* яе згубіць.

2. Зеўс з паэмы "Тарас на Парнасе" разбэшчаны, *здольны* да п'янства.

3. К.Крапіва ўжывае рэзкую сатыру, знаходзіць кожнаму персанажу адпаведнае яго *здольнасцям* месца.

Вытрымкі гавораць пра недасведчанасць у значэнні, спалучальнасці ды ацэначным напаўненні гэтых слоў. Напрыклад, у дзеяслове **здолець** ТСБМ вылучае 3 значэнні, першыя два з іх рэалізуюцца ў словазлучэнні з інфінітывам.

1. 'Быць у стане зрабіць, выканаць што-небудзь'. 2. 'Атрымаць магчымасць зрабіць што-небудзь пры пэўных абставінах'. У трэцім значэнні дзеяслоў сінанімічны словам **адолець, асіліць, змагчы**, кіруе назоўнікам (займеннікам) у вінавальным склоне.

Выразна ўказваюць на стылістычную афарбоўку прыведзеныя ў слоўніку цытаты з мастацкіх твораў, напрыклад: *[Таня] ведала: каб яна **здолела** расказаць усё шчыра бацьку, ёй адразу было б лягчэй, яна адразу адчула б сябе дома* (І.Шамякін); *Вее крыл узмах На prасторы сінім, Мы пракласці шлях **Здолеем**, асілім* (Язэп Пушча); *Цяпер, стоячы над калонамі людзей, чалавек **здолеў** сказаць моцныя словы пра задачы і патрэбы ўсіх тых, што сабраліся тут* (Кузьма Чорны) ды інш.

Гэтае слова абазначае псіхічна-эмацыйны рух, звязаны з усвядомленым валявым намаганнем, жаданнем асобы дзейнічаць, выконваць сваё прызначэнне. Дзеяслоў **здолець** разам з тым станоўча ацэньвае названае спалучаным з ім інфінітывам дзеянне і яго ўтваральніка, таму надае словам **згубіць прыроду** адзнаку спадзявання, чаканых станоўчых вынікаў. На самой жа справе першы з цытаваных абітурыенцкіх сказаў павінен быць папярэджаннем, нагадваць на магчымыя трагічныя вынікі няўважлівага стаўлення да прыроды. У такім выпадку недакладна ўжыта і слова **згубіць**. Згубіць можна ключы, грошы, рэчы, час, аднак не прыроду — багатую ў праявах і разнастайнасці рэчаіснасць, прыроднае асяроддзе. Да месца тут будзе блізкае па гучанні слова **загубіць**, а таксама яго словаўтваральны і лексічны сінонімы **пагубіць, вынішчыць**. Магчыма, аўтар меў на ўвазе значэнне 'перастаць мець што-небудзь, валодаць чым-небудзь, не захаваць, не зберагчы', тады неабходна выкарыстаць слова **страціць**. Прывядзём некаторыя варыянты заменаў:

Калі мы не будзем шанаваць прыроду, то (дык) можам яе загубіць (пагубіць, страціць).

Калі мы не будзем шанаваць прыроду, дык станем памагатымі яе вынішчальнікаў.

Словам **здольны** называюць пэўныя ўменні, станоўчыя якасці чалавека: **здольны захапляцца, здольны разумець іншых, здольны прыгожа гаварыць**. Другое значэнне гэтага слова ўказвае на прыродныя задаткі, дар, талент: **здольны мастак, здольны інжынер, здольны студэнт**.

Таму спалучэнне **здольны да п'янства** стылістычна неапраўданае. Выправіць памылку дапаможа сінанімічная замена: **схільны да п'янства** (гэты выраз гучыць афіцыйна). Адпаведную якасць можна перадаць ацэначным назоўнікам **п'яніца**, выкарыстаць яркія фразеалагізмы: ... **любіць заліваць вочы, браць чарку**.

Прывядзём некаторыя варыянты выпраўлення:

... Зеўс паказаны п'яніцам і лайдаком.

... Зеўс ленаваты, схільны да п'янства.

... Зеўс лайдачыць, любіць заліваць вочы (браць чарку).

І нарэшце вартыя сатырычнага адлюстравання рысы людзей таксама нельга без іроніі назваць **здольнасцямі**, бо гэта слова называе прыродныя задаткі (**разумовыя здольнасці; здольнасць рухацца, арыентавацца**), а ўжытае ў форме множнага ліку яно сінанімічнае словам **дар, талент**: **музычныя здольнасці, здольнасці матэматычныя**. Крытыкуюць, сатырычна адлюстроўваюць не **здольнасці**, а **хібы, заганы, недахопы, адмоўныя рысы характару**. Шматслоўны невыразны сказ можна ўпарадкаваць наступным чынам:

Рэзкай сатырай К.Крапіва падкрэслівае і ацэньвае пэўныя заганы (хібы) чалавека (грамадства).

Крытыкуючы адмоўныя праявы, К.Крапіва выбірае сатырычную форму адлюстравання, адпаведную сутнасці ды значнасці недахопаў.

У сатырычных творах праяўляецца яркая здольнасць Кандрата Крапівы знаходзіць арганічную мастацкую форму для падкрэслення і ацэнкі чалавечых заганаў, недахопаў грамадства.

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

**Валянціна ВЫХОТА,**
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

*Паны адны перад другімі*
***Шыкуюць** жартамі сваімі,*
*Свой розум, гонар выстаўляюць*
*І дубальтоўкі выслаўляюць.*

**Шыкаваць**[1] праяўляць у чым-н. шык; фарсіць (ТСБМ); форсить фам. (sich) großtun (РНС); großtun. Sie tut mit ihrer Bildung groß. Она хвастается своей образованностью (DRS).

**Шыкаваць**. Ням. schicken, с.-в.-ням. schicken падрыхтоўваць, даводзіць да парадку, приводить в исполнение, осуществлять, организовывать что-л. (GDRW)

Параўнайце: **шыкаваць**. Абл. Рыхтаваць, падрыхтоўваць (ТСБМ).

schicken — той жа крыніцы, што і geschehen 'адбывацца, здарацца'. Герм. корань *skē-, якому адпавядае генетычнароднаснае ст.-слав. skokŭ 'скок', skakati 'скакаць'.

Франц. chic m узыходзіць да ням. Schick m.

**Шык** 1. Раскоша; форс, элегантнасць (ТСБМ).

Schick m 1. Mit Geschick und Geschmack erzielte Eleganz (WDG).

**Беларускае адраджэнне**

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Роўны вялікім Рансару і Каханоўскаму

Два роды славеснасці вызначылі характар польскамоўнай літаратуры канца XVI — першай паловы XVII стагоддзя — дыдактыка і лірыка.

Дыдактычна-энцыклапедычны трактат "Зерцала, альбо Жыццё сумленнага чалавека" Рэя з Нагляваць, у сваім родзе спадарожнік жыцця шляхціча, тонкасцю псіхалагічных назіранняў, дасканалым веданнем айчыннага побыту, на думку даследнікаў, заклаў падмурак, асновы празаічнай традыцыі польскамоўнай літаратуры. Такім чынам, дыдактыка спрыяла зараджэнню прозы.

Найвялікшым паэтам старой польскамоўнай літаратуры, ад якога Муза не прыхавала ніводнага са сваіх сакрэтаў, лічыцца Ян Каханоўскі. У традыцыі лацінамоўнага пісьменства ён быў роўны яго амаль сучасніку Петрарку і антычным тытанам Гарацыю і Вяргілію. Сяброўства з Рансарам натхніла Каханоўскага на польскамоўныя творы. Відаць, яго бліскучыя вопыты ў галіне малой паэзіі (тэрцына, санэты, оды, элегіі, сатыры, эпіграмы) асабліва цікавілі Івана Ужэвіча. Нездарма, згадваючы пра законы паэтычнага майстэрства ў сваёй "Граматыцы", старабеларускі філолаг заклікае вывучаць іх па творах Яна Каханоўскага.

Талент Я.Каханоўскага, безумоўна, дазваляў яму стварыць магутны эпас народа, пра што сведчаць яго эпічныя творы — аповесць "Сусана", "Паход на Маскву гетмана Хрыстафора Радзівіла" (1581), фрагменты гераічнай паэмы, прысвечанай бітве з туркамі пад Варнай, у якой загінуў Уладзіслаў III Ягелон.

Але шляхце, асабліва польскай ці ўсходнеславянскай, якая прыняла польскую культуру, спрадвеку бракавала рамантызму, гераізму, а імкненне да прывілеяў і дабротаў рабіла яе нават абыякавай да вайсковай і дзяржаўнай службы. Рэлігійнага патрыятызму і філасофіі "залатой сярэдзіны" для стварэння гераічнага нацыянальнага эпасу, безумоўна, было яўна недастаткова.

Як мы адзначалі, наследаванне лепшых традыцый паэзіі Яна Каханоўскага мае месца ў творчасці Ужэвіча. Даволі ўдалая, ці не першая польскамоўная драма, паэма "Выпраўленне паслоў грэчаскіх" Я.Каханоўскага, створаная з нагоды шлюбу канцлера Яна Замойскага з пляменніцай Стэфана Баторыя, верагодна, натхніла І.Ужэвіча на напісанне ўласнай панегірычнай паэмы "Вобраз цноты"... Зварот да плённага вопыту Яна Каханоўскага дапамог Івану Ужэвічу пераадолець нізкі ўзровень твораў сучаснага яму макаранічнага перыяду і ўзняцца да глыбокіх філасофскіх высноў і абагульненняў. Анталогія паэтычных мініяцюр Каханоўскага "Фрашкі" ("Забаўкі"), відаць, засцерагла Ужэвіча ў малым жанры эпіграмы ад празмернай штучнасці і вычварнасці, дазволіла паэту, пры ўсім сімвалізме і скаванасці відавых межаў, данесці да чытача шчырасць і дабразычлівасць сяброўскага пачуцця ў адносінах да герояў верша-прысвячэння "На гербъ пановъ Брыгаллѣровъ".

Плённыя творчыя пошукі Шымона Шымановіча ў жанры ідыліі, побытава-апісальныя паэмы з народнага жыцця (Corais, Roxolania) галічаніна Себасціяна Кляновіча таксама дазволілі Івану Ужэвічу пераадолець штучнасць панегірычнага жанру, напоўніць вобразную прастору твораў шчымлівасцю тонкага лірычнага перажывання, не пазбаўленага месцамі і пачуцця гумару.

Асаблівасцю светаўспрымання сярэдневяковага чалавека, на думку Дз.Ліхачова, з'яўлялася тое, што "ўвесь сусвет (для яго) быў напоўнены сімваламі, і кожная з'ява мела двайны сэнс."*) На містычных аналогіях паміж геральдычнымі знакамі і станоўчымі рысамі чалавечага характару, па сутнасці, будавалася ўся панегірычная паэзія:

*И звѣрь, который отвсюлся боронить,*
*Цноты и славы оныхъ не хоронить.*
("На гербъ пановъ Брыгаллѣровъ")

*) *Лихачев Д.С. Поэтика древнерусской литературы. 3-е изд. доп. М., 1979. С. 162.*

**З гісторыі красамоўства на Беларусі**

# Пінская грамата

*У Пінскім краязнаўчым музеі захоўваецца рэдкі помнік заходнерускага пісьменства — адзіны вядомы ў наш час юрыдычны дакумент Пінскага княства XIV ст.*
**М.І.Алексяюк**
*(Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971).*

Дакумент, напісаны на невялікім пергаміне, мае адзнакі двух тыпаў грамат — абменнай і пацвярджальнай. У першай яго кампазіцыйнай частцы паўтарана рашэнне князя Васіля Нарымонтавіча абмяняць зямельны надзел на ўпадабанае ім уладанне Паўла Катовіча, якія абазначаны словам **островъ**. На Палессі і зараз так называюць высокае сухое месца сярод балотаў. Юрыдычную сілу дамоўленасці пацвярджае пры сведках Васілёў сын — новы князь Фядзюшка. Гэтыя звесткі сталі асновай другой кампазіцыйнай часткі граматы, якую працытуем поўнасцю:

***Се язъ князь Василии Наримонтовичъ оулюбилъ есмъ островъ оу Котовичя Павла на Ступьви дворъ собѣ поставити. На отмѣноу далъ емоу [о]стровъ оу жидечьскои, имя ему Ветелье, а далъ есмъ Павлови.***

***По томъ князь Федушько, отца своего княз[я] Василья с[ы]нъ приложил грамотоу и печать свою Котовичю. А при семь былъ Пилюга Гоубаревичъ Стефан, Петр Лѣвьчичъ, Стефан Черленъковичъ, игоуменъ Панъкратъ Троискии, Козлякъ Радьчьскии, Кочанъ, Юрко, Ганько. А писалъ грамотоу по[п] Тимофеи, святого Иоанна Крестителя.***

Паведамленне пра абмен надзвычай інфарматыўнае, мае стылёва дасканалую форму, у якой максімальна ўлічаныя сэнсавыя і выразныя магчымасці мовы. У традыцыі старажытнага пісьменства напачатку граматы, ад першай асобы, названы князь — суб'ект юрыдычнай дамовы (***язъ*** [я] ***князь Василии Наримонтовичъ***). Далей (у граматычна звязанай з асабовым займеннікам канструкцыі) указаны прычыны (***оулюбилъ есмъ***), прадмет абмену (***островъ***), яго ўладальнік (***оу Котовичя Павла***), яго размяшчэнне (***на Ступьви***) ды мэта князя (***дворъ собѣ поставити***). У наступным сказе падкрэсліваецца (праз двойчы ўжытае слова ***далъ*** і паўтарэнне ў давальным склоне імя ***Павелъ***), што адбылося пагадненне, а не гвалтоўны захоп. Тапанімічныя назвы захаваліся да нашых дзён і дапамагаюць высветліць, чаму князь упадабаў мясціну: рака Ступва (Ступа, Ступка) упадала ў Піну паблізу Пінскага палаца. Засталіся звесткі, што на Ступве ў XV-XVI стст. быў Стацічаўскі двор — адміністрацыйны цэнтр княскіх, а потым каралеўскіх маёнткаў паўднёвай, так званай зарэчнай, часткі Піншчыны. Аддалены ад Пінска на 20 км востраў Вяцелле, што месціўся ля вёскі Жыдча, безумоўна, не меў такіх транспартных і гаспадарчых выгод.

Другая кампазіцыйная частка, адпаведна жанравым і моўным асаблівасцям пацвярджальных грамат, уключае падрабязны пералік уласных імёнаў, па якіх можна прасачыць гісторыю ўзнікнення некаторых паселішчаў: патомкі роду Казляка Радчыцкага жывуць у вёсцы Казляковічы на заходняй ускраіне Пінска, а за 35 км ад горада ў вёсцы Качанавічы жывуць прадаўжальнікі роду Качана. Як зазначаў супрацоўнік Берасцейскага абласнога краязнаўчага музея М.І.Алексяюк, "можна меркаваць, што ўсе гэтыя вёскі ўзніклі прыкладна ў той жа час, калі складалася грамата. Што да рэчкі Ступва, то яна зусім заглеілася і перасохла, але назва яе дагэтуль жыве ў памяці тутэйшых людзей".

Навукоўцы датуюць гэты дакумент прамежкам 1387-1390 гг., адзначаючы, што толькі ён захаваў звесткі пра князя Фядзюшку з роду князёў Нарымонтавічаў, што паходзяць ад Нарымонта-Глеба, сына вялікага князя літоўскага Гедыміна. Дададзім, што грамата сведчыць пра высокую культуру пісьменства, трывалыя традыцыі афіцыйнага стылю на Беларусі.

# Праграма тэлебачання



## Панядзелак, 4 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
16.45 "Крок". "Рызыка-версія". Тэлегульня.
17.15 "Пазнай сябе".
17.45 Эканамічная праграма.
18.00 Фінансавы час.
18.35 Эканамікст.
18.50, 23.50 Навіны.
19.00 Рэферэндум: шчырая размова.
19.45 Вертыкаль.
20.15 Люстэрка.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Міжнародны фестываль "Залаты шлягер".
23.20 Мотаспорт. Супербайк. Чэмпіянат свету-96.

**ГРТ**
17.00, 22.20 Навіны.
17.20 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.00 "Мы".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Багз-2". М.ф.
21.45 Жыццё выдатных людзей.
22.30 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.40 "Пятніца, 13".

**"Расія"**
6.00 Ранішні экспрэс.
6.25 Па дарозе на працу.
6.35 "Мак і Матлі".
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
7.20, 9.50, 23.25 Тавары — поштай.
7.30 Ранішні экспрэс-2.
8.00 Рэтра-шлягер.
8.25 "Дарагая рэдакцыя..."
8.55, 19.30 "Санта-Барбара".
10.20 "Жнівень 1914". Д.ф. "Першая сусветная вайна". Ф. 1-ы.
15.05, 22.05 Тэніс. "Кубак Крамля".
16.50 Блак-нот.
17.05 Тэхнадром імя І.П.Кулібіна.
17.15 L-клуб.
18.00 Момант ісціны.
18.40 Асабліва важныя персоны.
20.30 Джэнтльмен-шоў.
21.05 "На вастры нажа". М.ф.
22.30 Тэлескоп.
23.35 Музыка ўсіх пакаленняў.
23.50 "Не спі і глядзі".

**Санкт-Пецярбург**
11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.50 Інфарм ТБ.
12.10, 19.25 "Партрэт жанчыны".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.40, 20.40 Тэлеслужба бяспекі.
14.10, 21.05 "Дэмпсі і Мейкліс".
15.00 Парадоксы гісторыі.
15.25 "Гонар маю".
16.10 Міжнародны агляд.
16.40 "Інспектар Гэджэт".
17.05 Тэатральная правінцыя?
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.10 Асабістая справа.
20.55 Спартыўны агляд.
21.55 Падзея.
22.15 Гістарычныя расследаванні.

**НТБ**
17.00 "Дзеці супраць монстраў".
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Прамы рэпартаж з камеры смяротнікаў". М.ф.
20.40 Група "МФ-3".
21.35 "Пагаворым пра гэта ў панядзелак". М.ф., 1-я ч.
22.30 Часінка.
23.20 Тэніс у поўнач.

## Аўторак, 5 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
7.30 Ранішні кактэйль.
7.50, 18.35 Эканамікст.
8.00, 15.00, 18.50, 24.00 Навіны.
8.15 "Гэта мы не праходзілі..."
8.30 Абібок.
9.00 Госці ў хату.
9.30 "Лёгкія крокі". М.ф.
10.55 Мультфільмы.
11.15, 19.35 "Трапічная спёка".
12.15 "Прэс-імпрэза".
12.55 Цёмны пакой.
13.25 Тураб'ектыў.
13.55 Тэлевізійны часопіс моды.
14.15 Акалада.
14.45 "Птушыная восень". Д.ф.
15.10 "Бусляня", "Ход сланом". М.ф.
16.00 Параграф.
16.20 "Усё пра ўсё".
16.45 Кантрасты.
17.15 "На добры лад".
17.40 Урокі Н.Наважылавай.
18.10 "Будзьце здаровы".
19.00 Рэферэндум: шчырая размова.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
22.10 "Гульня ўяўлення". М.ф.
23.30 Суперголь.

**ГРТ**
11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
11.10 Тэлерадыёкампанія "Мір".
11.55 "Беражыце жанчын". М.ф., 1-я ч.
13.00 Мультфільм.
13.10 Брэйн рынг.
14.20 Мультсерыял.
14.45 Квар'етэ "Вясёлая кампанія".
14.55 Мультытролія.
15.10 Чароўны свет, або Сінема.
15.40 "Элен і хлопцы".
16.05 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.30 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
17.20 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.00 Тэма.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Непадатлівыя". М.ф.
22.15 Хіт-парад.
23.10 Тэніс. "Кубак Крамля".

**"Расія"**
6.00 Ранішні экспрэс.
6.25 Па дарозе на працу.
6.35 "Мак і Матлі".
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
7.20, 9.50, 23.25 Тавары — поштай.
7.30 Ранішні экспрэс-2.
8.00 Рэтра-шлягер.
8.25 "Дарагая рэдакцыя..."
8.55, 19.30 "Санта-Барбара".
10.20 "Еўропа ў агні". Д.ф. "Першая сусветная вайна". Ф. 2-і.
15.00, 16.20, 21.35 Тэніс. "Кубак Крамля".
15.50 Каляндар.
16.55 Блак-нот.
16.35 "Чэленджэрс".
17.10 "Здароўе".
17.20 "Па той бок экрана".
17.50 Надзвычайны канал.
18.15 Лідэр-прагноз.
18.40 Асабліва важныя персоны.
20.30 Раз на тыдзень.
21.05 Подыум.
22.05 Зоркі ў Крамлі. У.Співакоў.
22.30 Эх, дарогі!
23.35 Музыка ўсіх пакаленняў.
23.50 "Хто на што здатны".
24.00 Гукавая дарожка.

**Санкт-Пецярбург**
11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 23.30 Інфарм ТБ.
12.10, 19.25 "Партрэт жанчыны".
13.00 Тэрмін адказу — сёння.
13.40, 20.40 Тэлеслужба бяспекі.
14.10, 21.05 "Дэмпсі і Мейкліс".
15.00 Навінкі сезона.
15.40 Увесь гэты цырк.
16.10 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
16.40 "Інспектар Гэджэт".
17.05 Дзіцячае ТБ.
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.20 Формула згоды.
21.55 Падзея.
22.10 Храм.
22.35 Дом кіно.

**НТБ**
17.00 "Дзеці супраць монстраў".
17.30 "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Чын-чын". М.ф.
20.45 Група "Ноль".
21.35 "Пагаворым пра гэта ў панядзелак". М.ф. Закл. ч.
22.30 Часінка.
23.20 "Непатрэбны юбілей". 1-я ч.
23.50 Меламанія: "Б'ёрк".

## Серада, 6 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
7.30 Ранішні кактэйль.
7.50, 18.35 Эканамікст.
8.00, 15.00, 18.50, 0.35 Навіны.
8.15 Вертыкаль.
8.45 "Зялёны фургон". М.ф., 1-я ч.
9.55 Тэлебом.
10.25 Кампутарны палігон.
10.50, 19.45 "Трапічная спёка".
11.50 "Непраўдзівая каліна". Д.ф.
12.10 Музыка без межаў.
12.40 Відзьма-нявідзьма.
13.40 "Вылет затрымліваецца". М.ф.
15.10 Мультфільмы.
16.05 Крэда.
16.25 Арсенал.
16.55 "Сярод старога і спрадвечнага"...
17.20 Госці ў хату.
17.50 Фільм-канцэрт.
19.00 Рэферэндум: шчырая размова.
20.45 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.55 "Хто гэта?" Тэлегульня.
22.00 Аўта-парк.
22.25 "Не хачу жаніцца!" М.ф.
23.45 Футбол. Чэмпіянат Беларусі.
0.50 Каралеўскае паляванне.

**ГРТ**
11.00, 14.00, 17.00, 23.05 Навіны.
11.10 Тэлерадыёкампанія "Мір".
11.55 "Беражыце жанчын". М.ф., 2-я ч.
13.00 Мультфільм.
13.15 Брэйн рынг.
14.20 Мультсерыял.
14.45 Кактус і К.
14.55 До-мі-соль.
15.10 Кліч джунгляў.
15.40 Мультфільмы.
16.05 Тэт-а-тэт.
16.30 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
17.20 "Новая ахвяра".
18.10 Час пік.
18.35 Адгадай мелодыю.
19.00 "Каб помнілі..." Эдманд Кеасаян.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Няўлоўныя мсціўцы". М.ф.
22.20 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.15 "Пятніца, 13".

**"Расія"**
6.00 Ранішні экспрэс.
6.25 Па дарозе на працу.
6.35 "Мак і Матлі".
7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Весткі.
7.20, 9.50, 23.25 Тавары — поштай.
7.30 Ранішні экспрэс-2.
8.00 Рэтра-шлягер.
8.25 "Дарагая рэдакцыя..."
8.55, 19.30 "Санта-Барбара".
10.20 "Ехалі ў трамваі Ільф і Пятроў". М.ф.
15.00, 21.05 Тэніс. "Кубак Крамля".
16.50 Блак-нот.
17.05 "Здароўе".
17.15 Астралогія кахання.
17.45 Ваша права.
18.10 Клуб губернатараў.
18.40 Асабліва важныя персоны.
20.30 "Аншлаг" прадстаўляе: А.Інін.
21.35 "Агонія". М.ф., 1-я і 2-я ч.
0.45 Музыка ўсіх пакаленняў.
1.00 "Хто на што здатны".
1.15 "Не спі і глядзі".

**Санкт-Пецярбург**
11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 23.55 Інфарм ТБ.
12.05, 19.25 "Партрэт жанчыны".
13.05 Тэрмін адказу — сёння.
13.40, 20.45 Тэлеслужба бяспекі.
14.10 Казка за казкай.
15.00 Незавершаны партрэт.
15.40 Скарбы Пецярбурга.
16.10 Асабістая справа.
16.35 "Інспектар Гэджэт".
17.05 "Выйсці з квадрата".
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
20.20 "Дварцовыя тайны".
21.00 Спартыўны агляд.
21.10 "Чорны кот".
21.55 Падзея.
22.10 "Дзякуй за кожную новую раніцу". М.ф.

**НТБ**
17.00 "Дзеці супраць монстраў". Закл. ч.
17.30 "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00, 23.00 Сёння.
18.35 Герой дня.
19.00 "Прадаўшчыца фіялак". М.ф.
21.35 "Мікалай і Аляксандра". Д.ф.
22.30 Часінка.
23.20 "Непатрэбны юбілей". 2-я ч.
23.50 Кафэ "Абломаў".

## Чацвер, 7 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 "Беларускія напевы".
8.30 Аўта-парк.
8.45 "Бусел над Прыпяццю". Д.ф.
9.05 "Зялёны фургон". М.ф.
10.15 Мультфільмы.
10.45 "Пекінская опера".
11.05 Прамысловасць Беларусі.
11.15 "Галасы мінуўшчыны".
11.45 "Вакзал для дваіх". М.ф., 1-я і 2-я ч.
14.00 Майстэрня.
14.20 Канцэртны сезон.
14.50 Беларусь сёння.
14.55 Экалагічная праграма.
15.25 Творцы.
15.55 Восеньскі дзень.
16.00 Алімп: ад падножжа да вяршыні.
16.20 Тэлевізійны Дом кіно.
17.20 Празрыстая Нёмана кропля.
17.40 Мантсерат Кабалье ў Менску.
19.15 "Кветкі правінцыі". М.ф.
20.40 Калыханка.
20.00 Навіны.
22.05 "Вяселле ў Малінаўцы". М.ф.
23.35 "Крок". "Оскар". Тэлегульня.

**ГРТ**
7.00 "Залатавалоска" М.ф.
8.15 Мультфільмы.
9.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
9.15 "Шосты". М.ф.
10.40 "Прынцэса Турандот". Спектакль.
13.05 "Падводная адысея каманды Кусто".
14.20 "Пачатак невядомага стагоддзя". М.ф.
15.40 "Грай, гармонік любімы!"
16.10 "Клуб падарожнікаў".
17.20 Песня-96.
18.10 "Новыя прыгоды няўлоўных". М.ф.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 Поле цудаў.
21.50 Вечар з М.Задорнавым.
23.05 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.40 "Рабро Адама". М.ф.

**"Расія"**
7.00 Лукамор'е.
7.25 Мультфільм.
7.55 "Мак і Матлі".
8.20 "Пра рассеянага чарнакніжніка". М.ф.
9.55 Фальклорны фестываль.
10.10 "Гібель імперыі". Д.ф. Ф. 3-і.
11.10 "Леў Гурыч Сінічкін". М.ф.
12.30 "Паэт у Расіі — больш, чым паэт".
13.00, 19.00, 0.15 Весткі.
13.20 "Залатыя гады". М.ф.
14.15 Рэпарцёр.
14.30 Караоке па-расійску.
15.00, 21.40 Тэніс. "Кубак Крамля".
17.05 Лота-Мільён.
17.20 "Пэн і Тэлер". Забаўляльная праграма.
17.50 Шарман-шоў.
19.30 "Гараж". М.ф.
21.20 Мультфільмы.
22.10 "Вандроўнік". М.ф., 2-я ч.
23.15 Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы сярод клубных каманд.
0.30 Музыка ўсіх пакаленняў.
0.45 "Не спі і глядзі".
1.10 "Хто на што здатны".

**Санкт-Пецярбург**
9.00 "Ку-ка-рэ-ку".
9.20 "Салют, малышы!"
10.10 Мультфільм.
10.20 "Чорны гардэмарын". Тэлеспектакль.
13.30 Мультфільмы.
13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
14.10 "Інтэрвенцыя". М.ф.
16.05 Дзіцячае ТБ.
17.00 "Парад парадаў".
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
19.20 Міжнародны турнір па міні-футболе.
20.25 "Застава Ільіча". М.ф., 1-я і 2-я ч.
23.40 Музычнае шоў.

**НТБ**
17.00 "Кошкі". Д.ф., 1-я ч.
17.30 "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00 Сёння.
18.35 Доктар Вугал.
19.00 Рэгулярныя матчы НХЛ.
21.35 "Вялікапышлівы". М.ф.
23.20 Па дарозе ў Галівуд.

## Пятніца, 8 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
7.55 Фільм-канцэрт.
8.25 "Тайна тайнаў". Навукова-папулярны фільм.
9.25 "Залатыя рогі".
10.35 Студыя "Калыханка".
11.10 "Тэма з імправізацыяй, ці 30 хвілін з Анатолем Ярмоленкам". Д.ф.
11.40 "Маанзунд". М.ф.
13.55 Майстэрня.
14.15 Тэлесябрына.
14.35 Чарнобыль: праблемы і вырашэнні.
15.05 "Крок". Правінцыя.
15.25 "Кітай на рубяжы XXI стагоддзя".
15.45 "Іван Васільевіч мяняе прафесію". М.ф.
17.20 "Славянскі базар-96".
19.15 Спектакль тэатра "Хрыстафор".
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
22.05 "Калі пайшоў — ідзі". М.ф.
23.25 "12, ці На ноч гледзячы".
23.55 Акалада.

**ГРТ**
6.55 "Інспектар крымінальнага вышуку". М.ф.
8.25 Мультфільмы.
8.45 Бесталковыя нататкі.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.15 Не зявай!
9.45 Ранішняя пошта.
10.25 Смак.
10.45 Вяртанне Траццякоўкі.
11.15 "З каханымі не расставайцеся". М.ф.
12.35 Відавочнае-неверагоднае.
13.05 "Падводная адысея каманды.Кусто".
14.20 "Песні аб Расіі".
14.50 Акно ў Еўропу.
15.20 Аднойчы.
15.30 Мультфеерверк.
16.15 Парыжскія тайны Э.Разанава.
17.20 У свеце жывёл.
17.55 "Каламбур".
18.25 "Карона Расійскай імперыі, або Зноў няўлоўныя". М.ф., 1-я ч.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Вяртанне "Святога Лукі". М.ф.
22.35 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.10 "Д'яблы". М.ф.

**"Расія"**
7.00 Лукамор'е.
7.30 "Фантадром".
7.50 Тавары — поштай.
8.00 "Мак і Матлі".
8.30 Пілігрым.
9.00 Вуснамі дзіцяці.
9.30 Прысяга.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Крок за крокам.
10.25 Рэтра-шлягер.
10.55 Прыз групы "Савва".
11.00 Чалавек на зямлі.
11.25 Кніжная лаўка.
11.55 "Чароўнае крэсла".
12.20 Прасцей простага.
12.55 Магазін нерухомасці.
13.00, 19.00, 22.55 Весткі.
13.20 "Залатыя гады". М.ф.
14.10 Нічога, акрамя...
14.25 Дыялогі лра жывёл.
15.00, 22.10 Тэніс. "Кубак Крамля".
17.10 Свая гульня.
17.40 "Джазавыя варыяцыі: Монтр — Масква".
19.30 "Кранутыя". М.ф.
21.20 Рэпартаж ні аб чым.
21.35 Сам сабе рэжысёр.
22.40 Рэк-тайм.
23.10 "Насланнё". М.ф.
0.45 Адамаў яблык.

**Санкт-Пецярбург**
9.25 Па рацэ плыве сякера.
9.55, 11.55, 14.05, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
10.10 "Гонар маю".
10.40 "Вось ізноў гэты двор..." Муз.ф.
11.10 Ток-шоў "Наўздагад".
11.40 Страсці-мардасці.
12.10 "Асечка". 1-я і 2-я ч.
14.20 Гісторыя "Гісторыі кахання".
14.40 Сядзібы.
15.10 Спартыўны агляд.
15.25 Парадоксы гісторыі.
16.10 Экспрэс-кіно.
16.35 Дзіцячае ТБ.
17.00 Зебра.
18.40 Вялікі фестываль.
19.20 Міжнародны турнір па міні-футболе.
20.05, 21.45 "Апошнія з цароў". Д.ф.
20.55 Свецкая хроніка.
21.10 Блеф-клуб.
22.40 "Гэта жанчына ў акне". М.ф.

**НТБ**
17.00 "Кошкі". Д.ф., 2-я ч.
17.30 Футбольны клуб.
18.35 Кінаканцэрт.
19.15 "Бег". М.ф., 1-я і 2-я ч.
21.00 Сёння.
23.20 "Прыгоды Катрын К." М.ф.
1.05 Эратычныя шоў свету.

## Субота, 9 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Фільм-канцэрт.
8.45 "Сугучнасць".
9.05 Здароўе.
9.40 Урокі Н.Наважылавай.
10.10 "Усё пра ўсё".
10.35 "Кур'ер". М.ф.
12.00 Шматгалоссе.
12.30 "Крок". "Вандроўнік".
12.45 "Вока".
13.05 Свет прыроды і захапленняў.
13.30 Калаж.
14.00 "Запрашаем на вячоркі".
14.40 "Гісторыя кахання".
15.00 Чацвёртае вымярэнне.
15.35 Беларускі дом.
16.15 Элеанора Язерская запрашае...
17.15 Галерэя.
17.50 "Любоў з прывідамі". М.ф., 1-я і 2-я ч.
20.05 Банка коміксаў.
20.40 Калыханка.
21.00 Навіны.
22.00 "Адзіны раз схлусіўшы". М.ф.
23.30 "Зорная ростань".
0.05 Відзьма-нявідзьма.

**ГРТ**
6.55 "Кукарача". М.ф.
8.25 Мультфільмы.
8.45 Хатняя бібліятэка.
9.00, 14.00, 23.30 Навіны.
9.15 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Служу Расіі!
11.30 Іграй, гармонік любы!
12.00 Русскій міръ.
12.30 "Падводная адысея каманды Кусто".
13.25 Смехапанарама.
14.20 "Вяртанне на востраў скарбаў". Закл. ч.
15.10 Мантсерат Кабалье.
16.00 Мультфільм.
16.20 Парыжскія тайны Э.Разанава.
17.00 Адзін на адзін.
17.30 Шчаслівы выпадак.
18.20 "Карона Расійскай імперыі, або Зноў няўлоўныя". М.ф., 2-я ч.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.50 "Чорны прынц". М.ф.
22.45 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.40 "Серэнада Сонечнай даліны". М.ф.

**"Расія"**
7.00 "Асеннія званы". М.ф.
8.15 Мультфільмы.
8.30 Па вашых пісьмах.
9.00 Кніжная лаўка.
9.15 Новае пятае кола.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 "Здароўе".
10.30 Добрай раніцы.
11.00 21 кабінет.
11.30 Ананімныя суразмоўцы.
12.00 Прасцей простага.
12.30, 13.20, 21.55 Тэніс. "Кубак Крамля".
13.00, 19.00, 22.30 Весткі.
14.40 "Нічога, акрамя..."
14.50 Дэ факта.
15.20 Сад культуры.
15.55 Футбол без межаў.
16.25 "Ва ўсіх на вуснах".
16.40 Імперыя гульняў.
17.30 "Камедыя строгага рэжыму". М.ф.
19.35 Суботні вечар з Піліпам Кіркоравым.
21.00 Зусім сакрэтна.
22.45 "Карамазавы". Тэлеверсія балета Б.Эйфмана.
23.40 Праграма "А".

**Санкт-Пецярбург**
9.25 Тата, мама і я — спартыўная сям'я.
9.55, 11.55, 13.55, 15.55, 18.55 Інфарм ТБ.
10.10 Авертайм.
10.40 "Неўтаймаваная Афрыка". Д.ф.
11.05 Непазнанае.
11.35 Увесь гэты цырк.
12.10 "Лятучая мыш". Спектакль.
14.10 Яшчэ адна Расія.
15.10 "Каварства і каханне" Балет.
16.10 Спартыўная праграма.
16.35 Дзіцячае ТБ.
18.40 Рускі музей.
19.20 Міжнародны турнір па міні-футболе.
20.40 "Паглядзім".
20.55 Ва ўсіх на вачах.
21.10 Ноў смокінг.
21.55 Міжнародны агляд.
22.25 "Апошнія з цароў". Д.ф.
23.15 "Ювелірная справа".

**НТБ**
17.00 "Сабакі". Д.ф., 3-я ч.
17.30 "Дог-шоў. Я і мой сабака".
18.00, 21.00 Сёння.
18.30 "Крымінальная Расія: сучасныя хронікі". Д.ф.
19.00 "Зніклыя цывілізацыі". Закл. ч.
20.00 Надоечы.
20.45 Лялькі.
21.35 "Без кампрамісаў". М.ф.
23.25 Трэцяе вока.
0.10 "Плэйбой".

## Нядзеля, 10 лістапада

**Беларускае тэлебачанне**
8.00 Фільм-канцэрт.
8.45 "Конан".
9.10 Тэлебом.
9.30 Студыя "Калыханка".
10.15 "Усё нармальна, мама!".
10.45 Тураб'ектыў.
11.20 Майстэрня.
11.45, 17.00 Вяршыня свету. Тэлегульня.
12.05 Студыя "Акно".
13.10 Мультфільмы.
13.40 Міжнародны кур'ер.
14.10 "Вяскоўцы".
14.45 "Вайна ў паветры". Д.ф., 10-я ч.
15.10 Мост.
15.40 Тэатр у фатэлі.
16.20 Залатыя ключы.
17.20 Абібок.
17.50 Кампутарны палігон.
18.20 "Снеданне з відам на Эльбрус". М.ф.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Навіны-ТБ.
21.25 Ток-шоў "Карамболь".
22.00 "Фраер упіраецца". М.ф.
23.45 Бархатны сезон.

**ГРТ**
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45 Навіны.
8.15, 17.20 "Новая ахвяра".
9.00 "Каб помнілі..." Эдманд Кеасаян.
9.40 Пакуль усе дома.
10.15, 13.00 Мультфільм.
10.30 Ранішняя пошта.
11.10 Тэлерадыёкампанія "Мір".
11.55 "Народжаная рэвалюцыяй". М.ф., 1-я ч.
13.15 Брэйн-рынг.
14.20 Мультсерыял.
14.40 Муз. праграма.
15.10 "Вуліца".
15.40 "Карын і яе сабака". М.ф.
16.05 Дзеючыя асобы.
16.30 Па старонках перадачы "Клуб падарожнікаў".
18.10 Чалавек і закон.
18.40 Канцэрт да Дня міліцыі.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.40 "Версія палкоўніка Зорына". М.ф.
22.30 Тэніс. "Кубак Крамля".
23.15 Футбольны агляд.
23.55 Амерыканскі футбол.

**"Расія"**
6.00 Ранішні экспрэс.
6.25 Па дарозе на працу.
6.35 "Мак і Матлі".
7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 23.00 Весткі.
7.20 Спартлато.
7.30 Ранішні экспрэс-2.
8.05 Рэтра-шлягер.
8.30 "Дарагая рэдакцыя..."
9.00 Магазін нерухомасці.
9.05 Мультфільм.
9.35 Гандлёвы дом. "Ле Монц".
9.50, 12.15, 23.25 Тавары — поштай.
10.20 Рускае лато.
11.00 "Пастка". М.ф., 1-я і 2-я ч.
12.10 Аўтограф.
12.20 Паліха-14.
12.30 Тэніс. "Кубак Крамля".
15.00 Фальклорны фестываль.
15.15 Лукамор'е.
15.45 Там-там навіны.
16.20 Блак-нот.
16.30 "Цёмная" для Н.Бетанэлі.
16.45 Крок за крокам.
17.00 Чароўны свет Дыснэя.
17.55 Бясконцае падарожжа.
18.25 У Ксюшы.
19.00 Люстэрка.
20.00 Святочны канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі.
22.00 "Перпендыкулярнае кіно".
23.35 Музыка ўсіх пакаленняў.
23.50 Лепшыя гульні НБА.

**Санкт-Пецярбург**
11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 23.45 Інфарм ТБ.
12.10, 19.25 "Партрэт жанчыны".
13.10 Тэрмін адказу — сёння.
13.40, 20.40 Тэлеслужба бяспекі.
14.10, 21.05 "Забойны аддзел".
15.00 Ток-шоў "Наўздагад".
15.25 "Гонар маю".
16.10 Міжнародны агляд.
16.40 "Інспектар Гэджэт".
17.05 "Восень. Царскае Сяло".
18.40 Вялікі фестываль.
19.15 Спорт.
21.20 Гумарыстычная праграма.
20.55 Спартыўны агляд.
21.55 Падзея.
22.15 Канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі.

**НТБ**
17.00 "Сабакі" Д.ф. Закл. ч.
17.30 Тэлегульня "Сто да аднаго".
18.00 Сёння.
18.30 Праграма У.Познера "Чалавек у масцы".
19.10 "ЦРУ". М.ф., 1-я ч.
20.00 Вынікі.
21.10 Футбол. Чэмпіянат свету.
22.55 "Такая дзіўная эротыка". М.ф.



У будынку Рускага драматычнага тэатра імя Горкага прайшло святкаванне юбілею народнай артысткі СССР **Аляксандры Клімавай.** Гэта было 1 кастрычніка, у дзень яе юбілею.

**Фота А.НІКАЛАЕВА, БелТА.**

## І смех і грэх

***Пародыя***

*Георгій Юрчанка*

# У крытычнай асветленасці

*Алесь МАРЦІНОВІЧ*

Вось і дачытаныя апошнія радкі паэмы "Гэй, да месяца і вышай!" нашага слыннага паэта. На жаль, пахвальнага слова пра твор не сустрэнеш, бо яго ніхто не напісаў. А ў напісаным нічога пахвальнага няма.

Не будзем праводзіць мяжу: пра гэта пісаць, а тое абыходзіць. Пры ўважлівым чытанні паэмы няцяжка прыкмеціць, што аўтар умее ненавязліва і вабна зазірнуць у глыбіні чалавечай душы. Твор і сімпатычны, і сімптаматычны адначасова. Паэт нібы прысутнічае ва ўчарашнім, трывала стаіць у сённяшнім і намерваецца зрабіць сур'ёзны крок у заўтрашняе. Але паэму не здолеў прачытаць як след крытык Вінцусь. Таму, калі разабрацца, ён паўтарыў вымаўленае неаднойчы. Ведай нашых! Між іншым, крытыку варта было б памятаць, што часам лепей бы памаўчаць, асабліва, калі сказаць няма чаго. Таму яго хістанні з боку ў бок пакінем па-за ўвагай. Бо ён не выяўляе належнай дасведчанасці, імкнучыся павучаць іншых. Ну, навошта ж так? Адразу пад дых.

А між тым паэма вабіць высокімі пачуццямі і светлымі парываннямі. Ад яе кранальна-нерушавых радкоў немагчыма адарвацца. Не заўсёды гэтую акалічнасць улічвае крытык Карпусь. Ён нават не спрабуе ўбачыць здольнасць аўтара здзіўляцца зямной прыгажосці. Таму ад яго разважанняў цягне ідэалагічнай няўдобіцай, дзяшовай выкрывальнасцю і халадком абыякавасці. Сяды-тады ён гаворыць нібыта правільна. Толькі з гэтай правільнасцю добра, а без яе яшчэ лепш. Па прычыне сваёй "мэтравасці" крытык паставіў усё з ног на галаву і спатыкнуўся на высокім парозе маральнага непастаянства.

Не пабаімся сказаць, што лірычны герой паэмы раскрываецца лепшымі духоўнымі задаткамі. У аўтара сваё бачанне шчымлівай наканаванасці, чуллівай прамяністасці і напеўнай роздумнасці. І таму дзіўна, што крытык Супрусь забывае пра ўражлівую душу паэта. Крытыкаваць — лягчэй, разумець — цяжэй. Не кожнаму дадзена ўбачыць, дзе паэтычнае зерне, а дзе звычайная мякіна. Калі ж знаёмішся з разважаннямі крытыка, не пакідае адчуванне, што ён паэму наогул не чытаў. У любой апратцы такі крытык будзе дэмагагічна-крыклівым.

Паэма глыбока кранае мелодыяй прыроднай гармоніі і адметнасцю мастакоўскай манеры. У ёй неруш сноў і салодкіх мар, свет шчодрай фантазіі і дыялектыка неспакойнага часу. Што-нішто з гэтых адметнасцяў заўважыў крытык Гапусь. Ды, бадай, наша думка больш аўтарытэтная. Гэта гаворыцца не як папрок, а дзеля справядлівасці.

У таго-сяго могуць узнікнуць іншыя меркаванні. Знойдуцца прыхільнікі традыцыяналісцкіх размоў. Порсткі крытык-рэцэнзент завядзе пра майстэрства дзеля майстэрства, як непрыкаянец будзе далдоніць пра душэўны напал і драматычную падсветку. Парадокс? Яшчэ які! Я ўжо хацеў пісаць пра кідкія лозунгі. Праўда, своечасова спахапіўся, таму што максімалізм з гадамі праходзіць. І хопіць крайнасцяў. Бо іначай можна зайсці вельмі далёка. Кампраміс? Ды як сказаць... Шаноўным крытыкам хачу напомніць пра неабходнасць засяроджанага чытання. Пры палюбоўнай сустрэчы можна было б паразважаць пра іншыя праблемы. Ды пара падрахункавацца: "Досыць!"

Аднак пра што гэта я? Ды ўсё пра тое, з чым не пагаджаюся. А не пагаджаюся я з многім. Таму што ва ўсім пагаджаюся толькі з самім сабою. І гэтым сказана галоўнае.

***Пачутае "У Лявона"***

**ЯНА НЕ ПРЫЙДЗЕ**

— Госць прыходзіць у шынок, але адміністратар кажа, што ўсе месцы занятыя.

— Пасадзіце яго за Лёлін столік,— раіць бывалец.— Яна сёння не прыйдзе.

— Чаму?

— Бо на скрыжаванні выцягваюць яе мерседэс з-пад МАЗа.

**І ЗНОЎ ПРА КОНЕЙ**

Аматару коней і конскіх гонаў афіцыянт прыносіць замоўлены біфштэкс па-татарску.

— Ваша мосьць, коні гатовы!

**ДЭЛЬФІНЫ І ЛЮДЗІ**

Госць шынка, што вярнуўся ад цёплага мора, распавядае пра дэльфінаў, якія яны вясёлыя, зычлівыя да людзей і разумныя: разумеюць адзін аднаго — у іх свая мова...

— А чаму яны не хочуць гаварыць з людзьмі? — цікавіцца ягоная суседка.

— Ім няма чаго сказаць чалавеку,— адказвае бывалец,— хіба што запытацца, чаму мы такія дурныя.

**ДЗЕЛЯ РОЎНАГА ПАДЗЕЛУ**

Бывальцы шынка пытаюцца ў сяброўкі, што вярнулася з суда, ці ўдаўся Лёлін разводны працэс.

— Суд не здолеў выканаць мужава патрабаванне падзяліць усё пароўну: у іх жа трое дзяцей.

— І што яны вырашылі?

— Лёля сказала мужу: хадзем дадому. Вернемся праз год, калі будзе чацвёра.

* * *

— Ці смачны абед?

— Зноў натр хлор не паклалі.

* * *

— І як твой новы кавалер? Мне ён падаўся надта маладым.

— І мне здаецца, што ён не выйшаў з пераходнага ўзросту. Ужо ведае, што трэба спыняцца ў цёмным месцы, але яшчэ не ведае дзеля чаго.

* * *

— Ці дапамог вам народны лекар?

— Не!

— Нічога не прыпісаў?

— Даў мне нейкія зёлкі, але я параілася з іншымі ягонымі пацыентамі.

* * *

— Ці абавязкова ў канцы гэтага сказа ставіць пытальнік?

— А чаму паненка дзівіцца?

— Як мне здаецца, мы жывём у такі час, калі не варта ні пра што пытацца.

* * *

— Мае творы хваліла крытыка...

— А маю карціну ўкралі!

* * *

— Каханне, мая дарагая, гэта — штодзённая, штохвілінная трывога: прыйдзе — не прыйдзе, пакахае — кіне...

— А мой кавалер такі прыстойны, дакладны: ніколі не падмануў, ніколі не спазніўся...

— Быў і ў мяне такі — намучылася з ім, кінула.

* * *

— Ці скора шлюб вашай дачкі?

— Зноў адкладваецца на некалькі працэнтаў дзён...

— ??

— Маладзён зажадаў пасаг у доларах ды карэктуе з штодзённым курсам...

# Даты і падзеі ў лістападзе

1 — 360 гадоў таму ў Маскве стралец варты Маскварэцкіх варотаў правёў у Пасольскі прыказ ліцвіна. "А сказал, что сево дни ноября в 1 день ехал тот литвин через живой мост и хотел ехать в город, а сказал им на карауле, что он литовской купец, а приехал с товаром для торгу, и они ево взяв, привели в Посольской приказ. А литовской купец в распросе сказался: Савастьяном зовут Иванов, Оршанского повету из-ыменья пана Казимеря Сапеги из Белынич..."

— 50 гадоў таму Кароль Вайціла — цяпер Папа Ян Павел II — быў высвечаны на святара.

2 — Дзяды

— 395 гадоў таму ў друкарні братоў Мамонічаў "выдрукаваны" "Часасловец", друк у дзве фарбы, каля 150 ілюстрацыяў.

— 160 гадоў таму ў сям'і былога паручніка напалеонаўскага войска Франчэска Андрыёлі, які трапіў у палон, асеў у Вільні ды здаў экзамен на дэкаратара і настаўніка малявання, нарадзіўся сын Эльвірыён Міхал — будучы знакаміты мастак, удзельнік паўстання 1863 года, сябра Францішка Багушэвіча.

— 125 гадоў таму на гадавым пасяджэнні Таварыства менскіх лекараў Е.Д.Клюкоўскі, гаворачы пра эпідэмію халеры 1871 года ў Менскім павеце, паведаміў, што гэтая хвароба можа быць занесеная з іншай мясцовасці — фактычна ўсвядоміў упершыню з'яву бацыланосьбітаў, — а таксама раіў адасабляць хворых ды праводзіць дэзінфекцыю.

— 120 гадоў таму Іван Люцыянавіч Неслухоўскі (Янка Лучына), паэт, пісьменнік, фальклярыст, атрымаў дыплом інжынера-тэхнолага і быў накіраваны на працу ў Закаўказзе.

3 — 335 гадоў таму маскоўскі ваявода князь Хаванскі пацярпеў паражэнне ад войска ВКЛ у баі каля вёскі Кушлікі.

— 75 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Янкі Юхнаўца (цяпер жыве ў ЗША).

— 78 гадоў таму ў Нямеччыне выбухла рэвалюцыя: нямецкі ўрад зняў войска з усходняга фронту — атрады Чырвонай Арміі пачалі займаць беларускую тэрыторыю.

4 — 495 гадоў таму пад Амсціславам адбылася бітва паміж войскамі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы.

— 180 гадоў з дня нараджэння ў Кублічах на Лепельшчыне Аўгусціна-Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, паэта, пісьменніка (яго называлі выдатнейшым поруч з В.Дуніным-Марцінкевічам), перакладчыка, збіральніка вуснай паэтычнай творчасці нашага народа, удзельніка паўстання 1863 года, асуджанага за гэта на восем гадоў катаргі.

— 120 гадоў з дня нараджэння мовазнаўца Мікалая Дурнаво, акадэміка АН Беларусі.

— 90 гадоў з дня нараджэння балерыны Аляксандры Нікалаевай, педагога, народнай артысткі Беларусі.

— 50 гадоў таму стаў правамоцным Статут UNESCO — часткі структуры Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў дзеля адукацыі, навукі і культуры.

— 40 гадоў таму Савецкі Саюз пачаў падаўленне Венгерскага паўстання.

5 — 580 гадоў таму балгарскі святар Рыгор Цамблак быў абраны мітрапалітам ВКЛ. Ён перанёс цэнтр мітраполіі з Кіева ў Вільню, а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Навагарадак, дзе напісаў большасць сваіх твораў — панегірычна-дыдактычных "Слоў", у тым ліку і на беларускай мове.

— 70 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Якутава, публіцыста, празаіка, кандыдата гістарычных навук, аўтара кніг пра камуністычных дзеячаў Беларусі (цяпер рыхтуе кнігу пра Аляксандра Лукашэнку).

6 — 105 гадоў з дня нараджэння мовазнаўца Язэпа Ваўка-Левановіча, аўтара дапаможніка "Лекцыі па гісторыі беларускай мовы" ды іншых навуковых прац, якія страчаныя пасля арышту аўтара ў 1937 годзе.

7 — 185 гадоў з дня нараджэння Караля Яраміра Эрбена, чэшскага паэта, фальклярыста, публікатара беларускіх народных казак.

— 100 гадоў з дня нараджэння Міхася Чарота (М.С.Кудзелькі), паэта, драматурга, празаіка, грамадскага дзеяча.

— 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Кацара — гісторыка мастацтва, педагога, доктара мастацтвазнаўства, прафесара, збіральніка беларускіх народных арнаментаў і міфалагічных сімвалаў.

— 105 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Дзмітрыя Фурманава.

**Падрыхтаваў З.С.**

***У старых фаліянтах***

# Прафесарскі канёк

Адзін з найбольш славутых расійскіх хімікаў Аляксандр Бутлераў меў дзіўнае, як для такога навукоўца, хобі. Што праўда, ставіўся да яго з належнай увагай, выкарыстоўваў спецыяльныя тэрміны. Сведчыць пра гэта хоць бы назва кніжачкі, якой быў аўтарам: "Медыумізм або студыйныя назіранні падчас доследнага спірытызму".

Як вядома, спірытызм — гэта кантакты з духамі. Шмат хто, выхаваны ў матэрыялістычным грамадстве, мяркуе, што духі — гэта штось з уяўленняў "цёмных" людзей. А тыя, хто схільны паверыць у рэальнае існаванне "духаў", пэўна ж уяўляе, наколькі складана або нат амаль немагчыма паразумецца з чымсь, што нябачнае. Паводле прафесара Бутлерава дзеля гэтага трэба толькі, каб пэўная колькасць асобаў села за круглы стол ды паклала на ім рукі, датыкаючыся мезенцам правай рукі мезенца левай рукі суседа. А далей?.. Ды прачытаем радкі кніжкі — рэляцыю сведкі: "Не буду гаварыць пра простыя рухі стала, бо не выкарыстоўваў вымяральных прыладаў... Пасля рухаў чуваць стуканне, а менавіта розныя гукі, што чуліся ў стале або іншых месцах. Былі гэта стукі featureнага роду і калі-нікалі вельмі моцныя: то лёгкае пастукванне нечым цвёрдым і тонкім, то падобнае на стук концамі пальцаў... Раптам пачала варушыцца шаўковая сукенка адной пані, якая сядзела паміж Гомам (гэта — прафесійны медыум) і мной. Рухі гэтыя кіраваліся ад боку, што звернуты да мяне: спадніца варушылася і шастала так, нібы надзімалася нейкім ветрам. Жадаючы ўважліва наглядаць за рухамі гэтай спадніцы, сеў на падлозе і бачыў яе тут жа ля майго твару".

Але варушэнне спадніцы — толькі пачатак. Далей — болей. "Пасля розных дробных з'яваў, каторыя апісваць не буду, зрушыўся раптам вялікі і даволі цяжкі фатэль на чатырох ножках з кольцамі. Дзве пярэднія ножкі ўзняліся ўгару, хоць ніхто да яго не датыкаўся і крануць не мог. Так узняты фатэль некалькімі штуршкамі пасунуўся з свайго месца да нашага стала." Прафесар даў гэтай з'яве назву "змена вагі", але папярэджвае, што гэтыя словы трэба разумець не даслоўна. "Падпадае пад змяненне не велічыня зямнога прыцяжэння, а велічыня супраціўлення, якую гэтая маса аказвае спробе падняць яе..."

Як можна меркаваць з далейшых радкоў кніжкі, шаноўны прафесар не толькі меў дзівачнае хобі, але і вышуканае пачуццё гумару ды любіў пакпіць з сваіх суайчыннікаў, што шалелі за духамі.

**Вычытаў З.С.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1184

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2754 паасобнікі.
Падпісана ў друк 30.10.1996 г. у 15 гадзін.